PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 25 (2093) Год XLI Беласток 23 чэрвеня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Дзецям і моладзі жадаем прыемнага летняга адпачынку!* Фота з АРХІВА

Мікола Ваўранюк

## Начытаўся, то аддай!

**Вольга АНАЦІК з Ягуштова (1921 года нараджэння) да пенсіі не ведала, што ўмее пісаць вершы. Раней не было часу, за работай, выхаваннем дзяцей.**

— Я найперш стала пісаць пра сваё жыццё, — расказвае яна,— як майго чалавека забралі ў армію, як ён згінуў на першых порах вайны, як я засталася з двума дзеткамі.

Вольга Анацік выйшла замуж за першага кавалера ў вёсцы: і прыгожы, і адзін сын у бацькоў (дзве сястры былі ў яго), і гаспадарка ў 14 гектараў. Пажылі з сабой усяго два гады, нарадзіўся сын, другое дзіця было ў дарозе, як у 1940 годзе ўзялі яго ў Чырвоную Армію. Дачушка радзілася без бацькі, якога ніколі і не пабачыла. Толькі пасля вайны прыйшла з Масквы павестка, што малодшы сяржант Анацік прапаў без весці 24 ліпеня 1941 года.

— А яшчэ немцы, адступаючы, спалілі нас і дабытак забралі. Не перажыў гэтага мой цесць. У Галадах, бо адтуль многа ў Расею пасля вайны выязджалі, купіла я хату, пад Вялікдзень 1945 года ў яе ўвяліся, а пад восень цесця не стала.

Давялося ўсё самой рабіць на гаспадарцы. Араць, касіць, сеяць. Па каня хадзіла аж у Бранск — пра гэта таксама верш ёсць. Конік быў малады, трэба было чакаць, пакуль падрасце.

Цётка Вольга гаспадарыла да 1952 года. У той час у вёсцы ствараўся калгас. Забралі тады ўсю найлепшую зямлю. За іхнюю, што была зараз за клуняй, далі ў другім месцы, далёка ад дому. Рабіць яе было ўжо зацяжка. Кідае яна тую гаспадарку і паступае на працу ў Бельск прадаўшчыцай. Гэтай прафесіі трымалася аж да пенсіі. Прадавала ў Бельску і ў Ягуштове.

— То цяпер „склепы" чыстыя, цёплыя, выгодныя. А каліcь трэба было самой печку напаліць, замесці, прыбраць. Увечары грошы сама ў банк адносіла, позна дахаты вярталася, ой усяго было.

* * *

І цяпер Вольга Анацік жыве ў хаце, якую перавезлі з Галадоў. На гэтым самым панадворку стаіць вялікі дом, дзе жывуць сын з жонкай і ўнук, таксама ўжо сямейны. Цётка Вольга звыкшая з працай, актыўная ўсё жыццё, выконвае адказную функцыю царкоўнага скарбніка. Старшынствуе яшчэ Гуртку вясковых гаспадынь. І піша вершы.

— Я нядаўна першы свой ганарар атрымала. **Юры Гаўрылюк** прывёз 117 тысяч за верш, які быў надрукаваны ў „Над Бугам і Нарваю".



Гаўрылюк наведваўся некалькі разоў. Узяў з сабою тоўстую кніжку з перапісанымі ўручную вершамі і абяцаў выдаць зборнік да Спаса. Прыязджаў таксама **Місіюк** з Беластоцкага радыё і пускаў вершы ва ўкраінскай перадачы. Знаёмыя віншавалі з творамі, хвалілі, заахвочвалі пісаць больш. Але адначасна нехта заўважыў: **о, то з вас зробяць народну ўкраінску паэтку**.

— То я на гэта, што не хачу быць украінскай паэткай. Прасіла я Гаўрылюка, каб аддаў ён мне тую кнігу, бо мне трэба пра „стражакаў" у гміну занесці. Дык ён мне два вершы на ксераксе адбітыя прывёз і сказаў, што ўсіх не аддасць. Што ж мне цяпер рабіць?

Раней Вольга Анацік нідзе не друкавалася. Піша вершы на мясцовай гаворцы — польскімі літарамі — або некаторыя па-польску. Чытала іх на розных вясковых урачыстасцях, сходах у клубе альбо на дажынках у Бельску. Пісала яна пра трагедыю Райска і пра тое, як будавалі ў вёсцы пажарнае дэпо, пра суседзяў, пра наваколле. Не адны сумныя вершы выйшлі з-пад ейнага пяра, але і жартоўны, як хаця б пра заляцанкі дзеда ба бабы ці пра супольнае бабы і дзеда лапанне „пэрэпэліці". Вершы гэтыя поўняцца народным сакавітым гумарам, чужым ужо гарадскому, асабліва інтэлігенцкаму вуху.

Кожны, хто піша, хоча, каб з яго творамі знаёміліся. А тут нагода выдаць зборнік. Але і свядомасць, што хочуць з яе зрабіць кагосьці, кім яна не ёсць. Некаторыя вершы Гаўрылюк спецыяльна заказваў.

— Прасіў мяне, каб я напісала пра тое, як раней да Вялікадня шыкаваліся, пра Вербніцу, пра іншыя вясняныя абрады. І я пісала, гэтыя вершы ў той кнізе перапісаны.

*(працяг на стар. 3)*

Яўген Мірановіч

## Воўчая пашча капіталізму

Капіталізм у краінах усходняй Еўропы з'явіўся з такім абліччам, які яму дзесяткамі гадоў малявала камуністычная прапаганда. Беспрацоўе, бандытызм, прастытуцыя, наркаманія, адна за другой фінансавыя аферы з удзелам асоб кіруючых дзяржавай гэта весткі з першых старонак польскіх газет. Па зразумелых прычынах ніхто не піша пра станоўчыя бакі змяненняў, якія наступілі пасля 1989 г., бо для большасці пазбаўленых грошай грамадзян яны без значэння. А грошы ў гэтай сістэме сталі асноўным паказчыкам вартасці чалавека, вырашаюць і пра поспех у каханні, а нават пра месца вечнага спачынку і колькасць вянкоў падчас пахавання. Грошы дасталіся не заўсёды тым, якія больш працавалі ці прадстаўлялі сабою вышэйшы інтэлектуальны ўзровень, а найчасцей папаліся спрытным, бяздушным, нікчэмным людзям. Такі быў пачатак капіталізму і ў Амерыцы, і ў Англіі, і ў Нямеччыне, але ўсё гэтае здарылася там даўно, даўно таму.

Кожны, хто цяпер у Польшчы гандлюе ці прадукуе, хоча без рызыкі і свайго капіталу атрымаць як найбольшы прыбытак ад гэтай дзейнасці. Канкурэнцыя ў галіне якасці амаль адсутнічае. Ніжэйшыя цэны найчасцей прапаноўваюць тыя вытворцы, якія дзейнічаюць у зоне ценявой эканомікі, значыць, фірмы, якія афіцыйна не існуюць. Рэкамендуюць яны пакупнікам фальшаваныя тавары са знакам высокай якасці — ад алкаголю да самой складанай электронікі. Купляючы, напрыклад, аўтамабільную запчастку ў арыгінальнай упакоўцы і са знакам вядомай фірмы, можам набыць нешта, што толькі напамінае патрэбную нам дэталь — аб чым пераканаўся ніжэйпадпісаны. Жулік у краме адмовіўся прыняць рэкламацыю, заяўляючы, што такога тавару ён ніколі не прадаваў.

Дзяржаўныя і прыватныя прадпрыемствы аднолькава ігнаруюць спажыўцоў прапанаваных імі паслуг і тавараў, як бы ашуканства сталася галоўнай гарантыяй іх фінансавай паспяховасці. Напрыклад, у траўні нейкі рэкецёр з Zakładu Energetycznego Białystok SA (акцыянерная суполка) прадставіў рахунак за прададзеную электраэнергію ў жніўні 1996 г. Сумы, якія пакупнікі павінны заплаціць, вылічаны паводле зімовых нормаў спажывання электратоку. Вядома, ці прынамсі павінна быць вядомым усім, што летам людзі менш карыстаюцца электрычнасцю, чым зімою. Аднак загадзя заплачаны грошы за тавар, які спажыўцы атрымаюць праз некалькі месяцаў, даюць манапа-

*(працяг на стар. 3)*

# Мы прачыталі

*З улікам таго, што беластоцкую „Ніву" мы чытаем рэдка і слаба ведаем яе, развагі Сакрата Яновіча пра гэтую газету, пра шляхі яе развіцця карысна прачытаць усім нам,* — піша рэдакцыя штотыднёвіка

*Літаратура і мастацтва, н-р 16*

*„Ніве" толькі што споўнілася 40 гадоў. Дык са старонак гэтай пачэснай газеты польскіх беларусаў выпрашылі мы наўздагон прапанаваць нашым чытачам артыкул Сакрата Яновіча,* — піша рэдакцыя штотыднёвіка

*Наша слова, н-р 20*

Хапае надрукаваць у „Ніве" артыкул падпісаны Сакратам Яновічам, а зараз перадрукоўваюць яго ўсе беларускія часопісы і газеты. Ніводная аднак не спасылаецца на крыніцу. Відаць, лукашэнкаўская разведка дарвалася да адзінага артыкула Яновіча і парассылала яго ва ўсе рэдакцыі.

* * *

*Prezydent Aleksander Łukaszenko nie rozmawia z ministrami, ale na nich krzyczy. Transmisję z takich narad mogą oglądać w telewizji obywatele Białorusi. Normalny człowiek nie zechce pracować w rządzie, bo nie może znieść chamstwa.*

*Wprost, nr 21*

* * *

*Президент прочитал первую лекцию высшему эшелону управления Беларуси,* — інфармуе прэзідэнцкая газета

*Народная воля, н-р 126*

Прэзідэнта слухалі некалькі соцень „вертыкальшчыкаў", а фразы яго прамоў пачыналіся найчасцей: „пора прекратить", „необходно установить" і г.п.

* * *

*Łukaszenko obiecał, że rozprawi się i ukarze wszystkich wrogów. Człowiek sowiecki musi mieć wroga. Dostał poparcie na zasadzie: jeśli nikt nie będzie żył lepiej ode mnie, to będzie dobrze. Człowiek sowiecki to specjalny typ niewolnika. Taki kołchoźnik żył poza prawem, nie miał nawet paszportu. Kiedy przyszła demokracja, nie dano mu możliwości skorzystania z jej owoców. Wszystko zagarnęła nomenklatura. Wolni poczuli się jednocześnie żebrakami. A wszystkiemu winna stała się demokracja. Ludzie pomyśleli — rządzą nami ci sami ludzie, jedyna nowość to demokracja. Jaki z tego wniosek. Trzeba powrócić do tego co było. Niech to będzie Związek Radziecki i komuniści przy władzy, abyśmy nie byli żebrakami,* — сказаў Зянон Пазьняк.

*Kurier Podlaski, nr 106*

* * *

*Czym się różni prezes Pawlak od papieru toaletowego? Papier toaletowy się rozwija. W. Pawlak, odkąd stracił premierostwo, stosuje z uporem maniaka tę samą taktykę. Oprotestowuje publicznie pomysły swojego koalicjanta z SLD, straszy zerwaniem koalicji. Ale mało już kogo te pogróżki podniecają. Wystarczy, że Leszek Miller spokojnie przypomni, że peeselowcy piastują ponad sto stanowisk państwowych od wiceministrów do wojewodów, które też trzeba byłoby opuścić, a na drugi dzień nikt już nie myśli o porzucaniu koalicji.*

*Gazeta Współczesna, nr 106*

* * *

*Przez czterdzieści pięć lat Polska była w drugiej lidze europejskiej, ale z poczuciem wyższości. To był najweselszy barak w „obozie". Teraz awansowaliśmy, ale mamy poczucie jakbyśmy zostali zdegradowani. Doskwiera kompleks nowych przyjaciół, nie tylko dlatego, że język angielski jest trudniejszy od rosyjskiego. Chyba nie pozbyliśmy się poczucia gorszości w tej nowej rodzinie, która tylko uchyla drzwi przed nami do swojego salonu. W swojskim barze kat. II czuliśmy się o wiele lepiej. Owszem, można sobie zawsze poprawić humor udając się na najbliższy bazar i demonstrując pańskość wobec rosyjskiego kupca, ale to już nie ta sama satysfakcja jak kiedyś.*

*Polityka, nr 22*

* * *

*Што чакае дзяўчыну-шукальніцу прыгод на захадзе?* — пытае

*Звязда, н-р 123*

Чакае шмаль-бізнес і штодзённыя дамовы з сутэнёрам, а ўсё апошняе — нармальная праца і рызыка як у кожнай прафесіі.

* * *

*Solenie słoniny to najstaranniej skrywana tajemnica Aleksandra Łukaszenki i jego drużyny. Dlatego też on wygrywa wybory. W Polsce zbliżają się wybory. Przepis na wyrób i spożywanie białoruskiej słoniny jest potrzebny polskim politykom. Przed wydaleniem Mariana Krzaklewskiego z Białorusi brutalnie odebrano mu wszystkie próbki słoniny. Do Polski przewodniczącemu udało się wziąć tyle, co zjadł i wypił. Skąd o tym wiadomo? Rozpoznano to w Białymstoku w okolicach redakcji „Niwy", po „chuchu" przewodniczącego Mariana K.,* — піша Міхал Болтрык, публіцыст штомесячніка

*Przegląd Prawosławny, nr 6*

Пацвярджаем праўдзівасць слоў рэдактара Болтрыка. Палова нашай рэдакцыі бачыла, як неяк дзіўна наблізіўся ён да Кшаклеўскага, калі той з'явіўся на калідоры побач нашай сядзібы. Мы ўжо падазравалі калегу па пяру ў тым, што з ім нешта дрэннае адбываецца, але цяпер ужо ведаем, што, кідаючыся Кшаклеўскаму да вуснаў, праявіў ён такім чынам самааддана сваёй фірме.

# З мінулага тыдня

**Беларусь — так, Лукашэнка — не!** — гэта адзін з заклікаў, якія прагучалі ля будынка пасольства Рэспублікі Беларусь у Вашынгтоне падчас дэманстрацыі, арганізаванай амерыканскімі беларусамі. Сярод прысутных былі таксама прадстаўнікі амерыканскіх прафсаюзаў і амерыканскай прэсы. Дэманстрацыя цягнулася чатыры гадзіны, а прамаўлялі д-р **Янка Запруднік**, д-р **Вітаўт Кіпель**, журналіст „Часопіса" **Юры Каліна**, **Аляксей Хадыка** (сын дзеяча БНФ Юрыя Хадыкі) і іншыя асобы. Дэманстрантамі была адобрана адозва Кааліцыі ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі, якую складаюць 14 амерыканскіх арганізацый. Копіі адозвы былі пасланы расейскім і беларускім дыпламатычным місіям у Вашынгтоне, а таксама кангрэсменам і бізнесменам.

**Кшыштаф Бандарык** — шэф Беластоцкай дэлегатуры УОП (дзяржбяспекі) быў адкліканы міністрам унутраных спраў **Збігневам Семянткоўскім** з займаемай пасады праўдападобна за выяўленне паслу Сейма **Конраду Напяралу** сакрэтнага загаду шэфа УОП наконт сачэння за сітуацыяй на прадпрыемствах. Пасол у сваю чаргу абнародаваў дакумент, з чаго атрымаўся чарговы палітычны скандал. На думку **Артура Смулкі** — беластоцкага пасла ад Уніі працы — адстаўка мае палітычны характар. Лічыць ён таксама, што можна спадзявацца чыстак сярод супрацоўнікаў УОП, якія трапілі ў гэтую ўстанову пасля 1990 г.

**У Крынках** здадзена ў карыстанне аўтаматычная лінія для разліву газіраванай вады, дзякуючы якой утрая павялічыцца прадукцыя напіткаў. Цяпер ГСаўскі завод будзе выпускаць 5 тысяч паўтаралітровых бутэлек мінералкі ў гадзіну. Папулярная „Крынка" прадаецца галоўным чынам у паўночна-ўсходняй частцы краіны і экспартуецца ў Літву.

**Ірэна Врублеўская** — кіраўнік Раённай управы працы ў Гайнаўцы атрымала ўзнагароду I ступені старшыні Краёвай управы працы за дасягненні ў процідзеянні беспрацоўю. У гэтым годзе ўзнагароджаны былі 14 чалавек з ліку 360 Удзельнікаў конкурсу.

**I Міжнародны фестываль гітарнай музыкі**, які нядаўна адбыўся ў **Элку**, прыцягнуў увагу 50 маладых гітарыстаў з Беларусі, Літвы, Польшчы і Расеі. У ліку пераможцаў апынуўся **Дзмітры Сёмаў** з Гродна, які ва ўзроставай катэгорыі да 20 гадоў заняў трэцяе месца (вышэйшых узнагарод у гэтай катэгорыі не прысуджана).

**На Семяноўскім вадасховішчы** пачаўся тэхналагічны пуск першай у Беластоцкім ваяводстве экалагічнай гідраэлектрастанцыі. Афіцыйнае адкрыццё гэтага аб'екта, які з'яўляецца ўласнасцю Ваяводскага меліярацыйнага ўпраўлення ў Беластоку, адбудзецца ў ліпені г.г.

**Дэлегацыя супрацоўнікаў асветных устаноў Беласточчыны** (амаль 200 чалавек) прымала ўдзел у маніфестацыі Саюза польскіх настаўнікаў у Варшаве. Настаўніцкі прафсаюз патрабуе ад урада, каб павышэнне зарплат на 5,5% вышэй за паказчык інфляцыі абавязвала ва ўсіх галінах бюджэтнай сферы. Тым часам урад лічыць гэты паказчык сярэдняй і ў такой сітуацыі асвета атрымала б толькі 3,5%, а іншыя галіны — нават па 7—8%.

**Дачныя ўчасткі** ад некалькіх гадоў карыстаюцца попытам у гараджан. Найбольш, бо аж каля сотні ўчасткаў прапануе дачнікам гміна Міхалова. Неасвоенчаныя дзялянкі, распалажаныя ў аддэгласці аднаго кіламетра ад Семяноўскага вадасховішча, прадаюцца ўжо ад 2 зл. за квадратны метр.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Музыка і кампазітары Беларусі** — размова Аляксандра Вярбіцкага з Віктарам Роўдам.
- **Беларускі народны фэст у Беластоку.**
- **Літаратура маладой Беларусі.**

# Весткі з Беларусі

### БНФ пагражае забарона

Апошнім часам распаўсюдзілася інфармацыя пра магчымую забарону дзейнасці Беларускага народнага фронту „Адраджэнне". Такое рашэнне мае права прыняць толькі Міністэрства юстыцыі. Начальнік па справах грамадскіх аб'яднанняў гэтага міністэрства Міхаіл Сухінін паведаміў, што на дадзены момант яго ведамства не прымала ніякіх рашэнняў аб ліквідацыі БНФ. Аднак у міністэрстве разглядаліся матэрыялы, перададзеныя Менскай гарадской пракуратурай, якія пацвярджаюць удзел БНФ у арганізацыі і правядзенні несанкцыянаваных масавых акцый у Менску 24, 26 красавіка і 30 мая. У выніку прадстаўнікі Міністэрства юстыцыі 4 чэрвеня ўручылі кіраўніцтву БНФ афіцыйнае папярэджанне. У дакуменце падкрэсліваецца, што Мінюст, вывучыўшы пракурорскія матэрыялы, расцаніў дзеянні Фронту як націск на работнікаў пракуратуры, якія вядуць следства па факце арганізацыі БНФ 26 красавіка ў Менску масавых беспарадкаў.

### Спікер крытыкуе прэзідэнта

Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі пакрытыкаваў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку заявіўшы, што змены, якія адбыліся падчас яго прэзідэнтуры, паглыбляюць толькі адмоўныя з'явы ў краіне. Сказаў ён, што Лукашэнка з'яўляецца „больш таталітарным, чым колішнія правадыры Савецкага Саюза". Спікер парламента мяркуе, што калі Беларусь мае быць прэзідэнцкай рэспублікай, тады прэзідэнт павінен узначальваць урад, бо ў цяперашняй сітуацыі правы мае прэзідэнт, а абавязкі — прэм'ер-міністр.

### Ракетныя непаразуменні

Паміж Расеяй і Беларуссю могуць узнікнуць непаразуменні па пытанню вываду з беларускай тэрыторыі мабільных ракетных палкоў. Зараз у Міністэрстве абароны Расеі, па ўказанню Паўла Грачова, рыхтуецца праект ліста прэзідэнту Беларусі, у якім будуць абгавораны пытанні выканання Менскам абавязацельстваў па вывадзе да канца гэтага года ракетных палкоў у Расею. Беларусь у сваю чаргу адхіліла сцвярджэнне расейскіх ваенных аб невыкананні графіка вываду ядзернай зброі з яе тэрыторыі. Міністр абароны Леанід Мальцаў назваў беспадстаўнымі абвінавачанні начальніка штаба ракетных войскаў РФ Віктара Есіна ў тым, што беларускі бок зрывае графік вываду са сваёй тэрыторыі 18 ядзерных ракет, якія засталіся ў Беларусі.

### Небяспечная рыса

Беларусь падышла да той рысы, калі распад эканомікі і фінансавае банкруцтва могуць стаць немінучымі — гэты факт канстатавалі на сваім пасяджэнні дэпутаты парламенцкай фракцыі „Грамадзянскае дзеянне". Фракцыяй прынята рашэнне ініцыяваць вядзенне ў чэрвені парламенцкіх слуханняў па гэтай тэме з запрашэннем прэзідэнта рэспублікі.

### Еўфрасіннеўскія чытанні

Міністэрства адукацыі і навукі і Цэнтр праваслаўнай асветы прп. Еўфрасінні Полацкай 3 і 4 чэрвеня правялі педагагічнае свята — III Еўфрасіннеўскія чытанні на тэму супрацоўніцтва школы і царквы ў гуманізацыі выхавання і адукацыі. У іх прынялі ўдзел мітрапаліт Філарэт і міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў.

### Напружанне ў асвеце

Беларускі прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі будзе паслядоўна дабівацца ўсімі законнымі спосабамі ліквідацыі запазычанасці па зарплаце, — такое рашэнне прынята на пасяджэнні Прэзідыума Савета прафсаюза. У адпаведнай пастанове адзначаецца, што сітуацыя з выдачай зарплаты ў гэтай галіне па-ранейшаму застаецца напружанай. Пад пагрозай зрыву летняя адпускная кампанія педагогаў. Сума доўгу па рэспубліцы ў цэлым за красавік—май складае 95 млрд. рублёў, з іх звыш 57 млрд. не выплачаны яшчэ за красавік. Калі сітуацыя не зменіцца на працягу чэрвеня, кіраўніцтва прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі планує склікаць нечарговы пленум, на якім будзе вырашацца пытанне аб далейшых дзеяннях.

### Снарады ў металаломе

У след за двума вагонамі металалому, якія прыбылі ў Жлобін з Ульянаўска, на металургічны завод прыбылі сапёры. Яны выявілі сярод іржавага лому 200 снарадаў і своечасова адправілі небяспечныя вагоны на запасны пуць.

# Алімпіяда па беларускай мове

Завяршэнне другога выпуску алімпіяды па беларускай мове адбылося 4 чэрвеня 1996 г. у Варшаве. Прысутнасць саветніка-міністра пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы, прадстаўнікоў Міністэрства нацыянальнай адукацыі, Варшаўскай школьнай кураторыі, арганізацыі „Польшча—Усход", Галоўнага праўлення БГКТ, бурмістраў Гайнаўкі і Бельска можна было палічыць вызначэннем рангу ўрачыстасці. Душою, аднак, цэлага мерапрыемства (калі так можна назваць алімпіяду) была безумоўна педагагічная эліта бельскага і гайнаўскага ліцэяў.

Старшыня Галоўнага камітэта Алімпіяды прафесар Аляксандр Баршчэўскі ў сваёй прывітальнай прамове падкрэсліў значэнне алімпіяды для павышэння нацыянальнай свядомасці і значэння мовы, прывязанасці да роднага слова, літаратуры ды гісторыі. Напомніў ён таксама, што дзякуючы 15-гадовым намаганням кіраўніцтва Кафедры беларускай філалогіі, якая існуе 40 гадоў, толькі ў мінулым годзе ўдалося сарганізаваць першую алімпіяду па беларускай мове.

З сотні ліцэістаў, якія прынялі ўдзел у алімпіядзе, у фінал выйшла 15 асоб, прычым камісія прызнала лаўрэатамі 6 дзяўчат: Агнешку Сахарчук, Анну Дудзінскую і Марту Дзмітрук з Бельскага ліцэя, Галіну Сакоўскую, Гражыну Валкавыцкую і Люцыну Леанюк з ліцэя ў Гайнаўцы.

У фінале змагаліся яшчэ: Барбара Зянкевіч, Іаланта Сахарчук, Адам Кардзюкевіч, Кацярына Таранта, Андрэй Андраюк, Малгажата Парфянюк і Андрэй Федарук з Бельска ды Анета Служынская і Анета Кучко з Гайнаўкі.

Прэзентаваны фіналістамі ўзровень ведаў упаўнаважвае, паводле заявы прафесара А. Баршчэўскага, да паступлення на беларускую філалогію без экзаменаў.

Уручаныя лаўрэатам і рэшце фіналістаў падаркі і дыпломы мелі сімвалічны характар.

У віншавальных прамовах гасцей падкрэслівалася праблема значэння мовы для самой нацыянальнасці ды культуры суседніх народаў. Алімпіяда садзейнічала паглыбленню ведаў і трэба працягваць яе ў будучым.

Урачыстасць закончылася выступленнямі дзявочых спявачых калектываў з Бельска і Гайнаўкі. Дзяўчаткі далі з сябе ўсё, каб паказаць аўдыторыі сваё спявачае майстэрства. Пацвердзілі яны гэтым імкненні беларускай моладзі Беласточчыны перасягнуць рубікон фальклору.

**Янка Жамойцін**

# Начытаўся, то аддай!

***(працяг са стар. 1)***

**Так ствараецца ў нас украінскі фальклор і так родзяцца украінскія паэты на нашай зямлі.**

**Мікола Ваўранюк**

„Я ўсё жыццё хацела напісаць верш пра зямлю", — кажа Вольга Анацік.

**Зэмля**

Зэмля, ты наша маті руодна,
Ты шырока і глыбока,
Ты богацтва многого маеш
І для нас ты ўсё трымаеш.

Мы будуем і копаем,
Ты всё бачыш і всё знаеш
І нічого нам нэ кажэш
Туолько ласкаво прымаеш.

Глыбокі воды розьліваеш,
Руды міеді многого маеш,
Сіерэбро, золото копают,
Тэбэ часто вспомінают.

Уголь з тэбэ добываем,
Всіе мы людэ огрываем,
Нэ шкодуеш нам ніц свого,
Бо нэма в тэбэ чужого.

Вэліку сілу в собіе маеш,
Дома і горы ты трымаеш,
Вульканы віоцьця, вытрыскают
І з тэбэ цечу выпускают.

Ліса високі выростают,
Лісткі зылёны выпускают,
Корыэнье грубэ ўростае,
Зымля всэ муоцно іх трымае.

Зымля вэсною ўкрашае,
Віенкі росою пуодліває,
Мы сіеем збуожэ, загрыбаем,
Зымля нас корміт, нас пітае.

Мы нэ можэмо поняті,
Што зымля то друга маті,
Оддае нам всё, што мае
І нічого нэ скрывае.

Будэш віечно нам родіті,
Мільёны ліет ты будэш жыті,
По нас настанут другі людэ,
Засобуў в тэбэ всіем нам будэ.

Ты нас корміш, огрываеш
І до сэбэ всіех прымаеш.
Чы то біедны, чы богаты,
Пуойдэм всіе до тэбэ с хаты.

# Воўчая пашча капіталізму

***(працяг са стар. 1)***

лістам, якія яго прапануюць, магчымасць карыстацца гэтым своеасаблівым беспрацэнтным крэдытам, велічынёю ў пару мільярдаў новых злотаў. Хопіць пакласці грошы ў любы банк, а праз пару месяцаў атрымаецца ад гэтай сумы сапраўды дармовы, без сваіх затрат, прыбытак. Удзельнікі суполкі, без граша ўласнага капіталу і без ніякай рызыкі, на дадатак згодна з законам, могуць сабе дапісаць прэміі за эфектыўную дзейнасць. Такім чынам сярэдняя месячная заработная плата ўзрасла апошнім часам амаль да васьмі мільёнаў. Віцэ-прэм'ер Калодка, аб'яўляючы такія аптымістычныя весткі, забывае толькі сказаць, што адна група (асноўная) працоўнага люду атрымлівае месячную зарплату велічынёю ў 3-5 мільёнаў, а іншая, нашмат меншая, некалькі соцень мільёнаў старых злотаў.

Апошнім часам у мяне была нагода заглянуць у беластоцкія мэблевыя крамы. Іх уласнікі, зарыентаваўшыся, што хачу купіць нешта сабе, раілі пайсці ў другую краму, ці паказвалі іншую залу, дзе стаяла, на выгляд такая самая мэбля, толькі нашмат даражэйшая. Танная мэбля — заяўлялі — прызначана для „рускіх". „Pan za parę miesięcy przyjdzie z reklamacją, a zza Uralu nikt nie będzie wieźć połamanej wersalki", — пачуў я ў адной краме. Яшчэ год, можа два, і „рускія" зарыентуюцца, што „палякі" іх проста ашукалі, прадаючы ім смецце ў цудоўнай упакоўцы, але ніхто гэтым не пераймаецца. Наш пан бізнесмен, спецыяліст па мэблевай вытворчасці, будзе ўжо гандляваць кансерваванай англійскай ялавічынай з надпісам „сделано в Польше". Ведаючы прадпрымальнасць усходнееўрапейскіх стваральнікаў капіталізму, можна спадзявацца, што не адна расстраляная англійская карова ўзбагаціць каўбасныя вырабы на постсацыялістычным рынку.

**Яўген Міранович**

Белавежа і Нараўка „ў малінах"

# Міністр ужо не мае часу

Улады Нараўчанскай і Белавежскай гмін у справе пашырэння Белавежскага нацыянальнага парку ўжо „прывездзены да ручкі", аб чым з радасцю памедаміла польская прэса. „Dzisiaj włodarze pokornie chcą podpisać porozumienie na ministerialnych warunkach" — з задавальненнем інфармавала „Gazeta Współczesna" ад 11 чэрвеня г.г.

Як раней дамовіліся ўлады гмін з ваяводам, мелі яны сустрэцца для наступных перамоў у Міністэрстве аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і лесаводства. Шэф кабінета міністра паведаміў, што міністр гатовы падпісаць дамову на раней прапанаваных умовах. Сустрэча аднак не адбылася: у міністра Жаліхоўскага не было часу, калі прыбылі ў Варшаву прадстаўнікі гмін і Беластоцкага ваяводства. Наступны тэрмін не пададзены.

Згода гмін цяпер „нікому непатрэбная", як кажа дырэктар Аддзела аховы асяроддзя ВУ Аляксандр Бясядзкі. Тым больш, што дарадчыкі ўгаварваюць цяпер міністра, каб не падпісваць дамову ў апрацаваным кшталце — ніводная гміна ў Польшчы ў падобнай справе не атрымала такіх выдатных умоў. Значыць, таго цэннага часу ў міністра можа і не быць, калі ўрад практычна ўжо зацвердзіў рашэнне аб Белавежскім парку.

**Міра Лукша**

# У амбулаторыі

Тэрыторыя абслугоўвання Чаромхаўскай чыгуначнай амбулаторыі даволі вялікая. Пачынаецца яна недзе за Кляшчэлямі, а канчаецца Нурцом-Станцыяй. На ёй пражывае каля шасці тысяч падапечных.

У амбулаторыі працуе двое тэрапеўтаў і стаматолаг. Раз у тыдні, у сераду, з Беластока прыязджае лекар-спецыяліст па цукровым дыябеце і хваробе шчытападобнай залозы (тарчыцы). Ёсць тут аналітычная лабараторыя, аптэчны пункт. На месцы можна праверыць працу сэрца. У распараджэнні лекараў ёсць два аўтамабілі хуткай дапамогі, якія выкарыстоўваюцца для дамашніх візітаў і транспарту хворых на лячэбныя кансультацыі ў Гайнаўку, Беласток, а нават Варшаву.

Калі б я не зайшоў у амбулаторыю, заўсёды там шмат пацыентаў. Асабліва ў сераду, калі да лекара-спецыяліста Анны Боўтрык, якую чаромхаўскія чыгуначнікі добра ведаюць, паколькі яна многія гады ўзначальвала чыгуначную амбуларотыю ў Чаромсе, выстройваецца чарга.

Ужо некалькі гадоў будзе, як у Чаромху прыехалі Марына і Віталій Ігнацьевы, лекары з Расіі. Пасяліліся яны з сям'ёй, паспяхова акліматызаваліся ў мясцовым асяроддзі і карыстаюцца пашанай сярод падапечных і ў крузе чыгуначнага кіраўніцтва.

Мне, як чыгуначніку, неаднойчы прыходзілася наведваць амбулаторыю. Хачу сказаць, што наколькі раней рабочыя „хварэлі па заказу", натолькі зараз не хочуць карыстацца бальнічным лістком. А ўсё гэта таму (як кажа доктар Марына Ігнацьева), што зараз лепшая дысцыпліна на рабоце. Сімулянтам і гультаям няма месца ў рабочых калектывах. Кожны працу цэніць, бо ведае, што заўтра можа яе страціць. Калі я размаўляў з чаромхаўскімі лекарамі аб іх працы, аб праблемах, мне здавалася, што яны быццам бы іх не мелі. А мо проста не хацелі скардзіцца на сваю нялёгкую работу?

— У Чаромсе кажуць, што ў зубнога лекара тыднямі адзін зуб лечаць, гэта праўда?

— Праўда, — згаджаецца загадчык Чаромхаўскай амбулаторыі Марына Ігнацьева. — Інакш быць не можа. Адзін стаматолаг, калі б нават прымаў па некалькі дзесятак пацыентаў у адзін дзень, дык уявіце сабе, колькі часу спатрэбіцца, каб абслужыць шэсць тысяч падапечных? Я сама, і сям'я таксама, лечым зубы прыватна. У нас няма адпаведных прылад для добрай працы. Бедная тэхніка! А ў прыватных кабінетах — іншае абсталяванне, бо іх уладальнікі маюць на ўсё грошы.

— Чаго пажадалі б вы сабе і падапечным у бліжэйшую будучыню?

— Новага памяшкання для амбулаторыі. Гэты стары будынак памятае царскае панаванне. Рамонты не прыносяць рэзультату. Зімою не абагрэеш усяго будынка, ды і ўмовы тут дрэнныя. Абяцаюць перамясціць нас у будынак Прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу (даўнейшае паравознае дэпо), а ці так будзе і калі, дык ніхто дакладна не кажа...

Мне раней ужо прыйшлося пачуць, што амбулаторыю мелі перамясціць у іншы будынак. Аднак у той справе былі разыходжанні паміж чыноўнікамі самаўрада і чыгункі. Яны казалі, што амбулаторыя будзе знаходзіцца не ў цэнтры пасёлка, што будзе перашкаджаць у працы адміністрацыі Прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу.

На маю думку, такія меркаванні несапраўдныя. У згаданым будынку ёсць многа свабодных залаў. Скараціліся штаты працаўнікоў і царыць тут наогул цішыня. Спадзяюся, што не парушаць яе хворыя людзі, якія прыйдуць да лекара. А тое, што не ў цэнтры Чаромхі, дык таксама не праблема. Нам прыходзіцца неаднойчы ездзіць у Беласток ці Варшаву да лекараў, дык чаму ж не праехаць на веласіпедзе ці на аўтамабілі па асфальтавай дарозе кіламетр ці два ў бок Чаромхі. Хачу адзначыць, што прыезджым хворым таксама не будзе далей, паколькі будынак Прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу змяшчаецца непадалёк чыгуначнай станцыі. Канчаючы свае разважанні, хацелася б мне, каб нашы мары (лекараў і падапечных) як хутчэй збыліся, каб змяніліся на лепшыя ўмовы працы. А ўсё падказвае, што ёсць такія магчымасці. Трэба толькі лагічна падумаць і прыняць адпаведнае рашэнне.

**Уладзімір Сідарук**

# Міжкультурная адукацыя

У канцы мая адбылася ў Беластоку, арганізаваная Аддзелам педагогікі і псіхалогіі мясцовай Філіі Варшаўскага універсітэта, міжнародная канферэнцыя пад лозунгам „Сям'я перад міжкультурнай адукацыяй".

Праблема міжкультурнай адукацыі мае немалаважнае практычнае значэнне. Не існуюць дакладныя межы паміж паасобнымі культурамі, па якіх можна было б правесці фармальныя граніцы. Культуры ўзаемна перасякаюцца на нейкай прасторы і такая культурная іншасць можа вызваць адчужэнне, варожасць і — канфлікт; які канфлікт, гэта ўжо справа тэмпераменту бакоў. У мінулым развязкай гэтых канфліктаў займалася імперыяльная дзяржава шляхам абмежавання і мадыфікацыі культурных асаблівасцей меншых грамадскасцей. Палітычнай развязкай праблем меншасцей былі іх ліквідацыя, выгнанне, ігнараванне (напр. македонцаў у Грэцыі), адчужэнне (напр. туркаў у ФРГ) і асіміляцыя (напр. мусульман у Францыі).

Праблемай, якой займаецца міжкультурная адукацыя, з'яўляецца станоўчая каналізацыя дынамікі працэсаў на культурных памежжах такім шляхам, каб іншасць не выклікала варожасці. Добрым сродкам для дасягнення гэтай мэты з'яўляецца многакультурнасць. Многакультурнасць гэта і суіснаванне розных культур, якія сабе ўзаемна не пагражаюць, і многасць супольных вартасцей, якія культуры ўзаемна ад сябе пераймаюць. Адной з такіх вартасцей можа быць мова (не можа гэта быць аднак рэлігія: нельга быць двух- ці больш рэлігійным).

Успрыманне многакультурнасці не з'яўляецца нечым універсальным — залежыць яно ад вопыту. Праф. Маргарэт Сэкомб даследавала адносіны да іншых у гэтым плане (гэта англамоўная аўстралійка, прыехаўшы ў Польшчу, зацікавілася беларускай творчасцю „белавежцаў": мела яна каля дзесятка кніг, наверсе якіх прыкмеціў я „Кругавую чару" і „Лістоўе"). Аказваецца, што станоўчыя адносіны да другіх культур праяўлялі толькі тыя, што з тымі культурамі сутыкнуліся. Англааўстралійцы, якія не мелі дачынення з іншымі культурамі, адносіліся да іх адмоўна, былі задаволеныя сваёй монакультурнасцю і свае культурныя каштоўнасці лічылі адзінымі. З другога боку, тыя, што мелі такое дачыненне, стараліся глыбей пазнаць другую культуру м.інш. шляхам наведвання краін, з якіх выводзілася культура іх суседзяў. Дарэчы, нешта падобнае, калі добра прыглянуцца, можна ўгледзець і ў нас; ідзе тут мова пра актыўнае стаўленне да другіх.

На канферэнцыі была таксама мова пра пасіўную цікавасць да культуры — не толькі суседзяў, але і сваёй! Прыкладам былі — хто ж бы другі — беларусы. Гэту тэму даследавала д-р Кабзінска з Варшаўскага універсітэта на Міншчыне і Гродзеншчыне. Адзіным там крытэрыем „культурнага" падзелу з'яўляецца веравызнанне: католікаў называюць палякамі, а праваслаўных рускімі. На пытанне пра беларусаў былі і такія, якія выказвалі здзіўленне, што такія ўвогуле існуюць. Мову сваю называюць „простай" і лічаць яе не самабытнай, але мікстурай моў памежных: „свет памешаны" — гавораць. Паміж сабою жывуць згодна, а ўявы пра суседзяў бяруць са стэрэатыпаў. Якія гэта стэрэатыпы, не буду пісаць, бо і многім нам яны не чужыя. Адмоўны стэрэатып паляка, але не мясцовага, толькі з Польшчы, якога там называюць „пшэкам", бо ўсё рабіў бы *na przekór*. Адносіны да людзей — заўважыла дакладчыца — залежаць ад таго, як іх у школах вучылі гісторыі: былі аспекты моцна акцэнтаваныя, былі і табу. Дарэчы, цяпер гэтая ўява таксама мяняецца, бо ў выніку ўзаемапазнання аказвецца, што палякі з Польшчы гэта наогул такія ж самыя людзі, як і „тутэйшыя".

**Пра культурную сітуацыю ў Беларусі гаварыў і праф. Яцкевіч з Брэста. Вядома, што асноўным носьбітам культурных вартасцей з'яўляецца сям'я, з якою сітуацыя ў Беларусі — трывожная. Вельмі нізкі працэнт спелага насельніцтва краіны жыве ў шлюбе: 73% мужчын і 61% жанчын — менш чым у Расіі і Украіне. Да таго ж у сем'ях гэтых у выніку міграцыйных працэсаў падае монаэтнічнасць і паніжаецца працэнтная доля беларускіх сем'яў. Яшчэ ў пяцідзесятых гадах беларусы складалі каля 90% насельніцтва краіны; цяпер жа гэта доля ўпала да 72%. Калі ў Беларусі беларусаў пабольшала на 21%, то там жа колькасць рускіх павялічылася на 100%, а украінцаў нават на 120%. Выклікана гэта таксама самым высокім працэнтам міжнацыянальных шлюбаў у маштабе былога СССР: 38,5% беларускіх мужчын жаніліся з небеларускамі (для параўнання: з „чужымі" жанілася 16,1% рускіх і 11,5% літоўцаў) і 37,2% беларусак выйшлі замуж за небеларусаў (расіянак 17,7% і літовак 12,0%). Такім чынам размываецца беларуская этнічная сям'я і памяншаецца яе роля ў трансляцыі роднай традыцыі, мовы і другіх каштоўнасцей.** Вось уплыў сям'і на выбар дзяцьмі роднай мовы: супраць было 7%, неахвотна ставілася 10%, абы-як — 43% і станоўча толькі 40%. Трывожыць яшчэ і тое, што месца беларускай культуры не займае культура другіх нацый, толькі масавая культура ў расійскім варыянце, галоўнай „каштоўнасцю" якое з'яўляецца мат (на праведзенае ў Закарпацкай Украіне апытанне 90% рэспандэнтаў палічыла яго адзіным набыткам ад расейцаў). Калі мае месца ўзаемадзеянне культур, павінна захоўвацца пэўная нацыянальная канстанта, дзеля захавання роднага. У 20-х гадах, калі ў Беларусі ўспыхнула нацыянальная беларуская культура, паўстала таксама многа іншых школ: польскіх, яўрэйскіх, латышскіх і другіх.

Да апошняга сцверджання аднеслася праф. Герасімава, якая гаварыла пра сітуацыю яўрэйскай меншасці ў Беларусі. Яўрэйскія падручнікі 20-х гадоў у Беларусі былі толькі яўрэйскімі перакладамі беларускіх. Яўрэі, як і другія нацыі СССР, губілі сваю нацыянальную спадчыну. Толькі ў апошнія гады, калі патрацілі веданне традыцыі і мовы — і ідыш, і іўрыта, адрадзілася зацікаўленне родным, асабліва сярод маладых. Раней пазіцыю ў грамадстве акрэслівала ўваходжанне ў расейскую культуру, што і стала прычынай акультурацыі старэйшага пакалення. Важным стымулам вяртання да яўрэйскіх каранёў з'яўляецца існаванне дзяржавы Ізраіль. Магчымасць выезду туды з нестабільнай краіны выклікала моду быць яўрэем. Дзеці з мешаных сем'яў выбіраюць цяпер яўрэйскую нацыянальнасць ды вельмі актыўна вывучаюць яе традыцыю. Дайшло да таго, што дарослыя даведваюцца ад дзяцей пра яўрэйства.

Былі таксама зачытаны даклады пра сітуацыю культурных меншасцей у Польшчы. Пра кашубаў гаварыў д-р Косак-Глуўчэўскі з Гданьска. Пасля, так першай, як і другой, сусветных войнаў узмацнілася рэпаланізацыя кашубаў. Адзіным шанцам, каб выбіцца, было адрачэнне ад нацыянальнай культуры. Сёння праводзіцца кашубская адукацыйная акцыя — у звыш ста школах, галоўным чынам у аддаленых ад культурных цэнтраў мясцовасцях, адбываюцца заняткі па кашубскай культуры і мове, а ацэнкі з гэтых прадметаў заносяцца ў школьныя пасведчанні. Бацькі да гэтай з'явы адносяцца амбівалентна, затое 90% настаўнікаў — супраць...

Праф. Нікітаровіч з Беластока гаварыў пра курпяў, большасць якіх ведае і практыкуе народную традыцыю. Цікавае стаўленне моладзі да спадчыны: дзяўчаты амаль поўнасцю адносяцца да яе станоўча, а 40% хлопцаў абыякава; 15% маладых хоча гаварыць на сваёй гаворцы.

Пра цікавую сітуацыю на Шлёнску расказаў праф. Ясінскі з Аполя. Наступіў тут разрыў культурнай традыцыі. Выбары ў апошніх гадах паказалі, што каля 30% грамадзян з выбарчых спіскаў адсутнічае — жыве ў ФРГ. Да нямецкай меншасці прызнаюцца не толькі сем'і з вельмі польскай традыцыяй, але нават імігранты: гуралі і рэпатрыянты з Усходу. У апытаннях выглядае гэта так, што не называюць сябе немцамі, толькі еўрапейцамі. Цікава тое, што няма схільнасці да інтэркультурнасці, толькі да уніфікацыі — асабліва імігранты баяцца прызнавацца да іншасці і не хочуць яе. Вясковая моладзь ідзе толькі ў прафесіянальныя школы, бо ў ФРГ лягчэй атрымаць „простую" працу.

Усе дакладчыкі заключалі, што асноўным асяроддзем фарміравання культурнасці чалавека з'яўляецца сям'я. Клапоціцца яна аднак не толькі пра духовую сферу, але і пра матэрыяльную. Дарогі да адных і другіх мэтаў часта вядуць у розныя напрамкі. Пазіцыя ў грамадстве, якая вызначае матэрыяльны лёс, гэта пазіцыя не ў меншаснай культуры, а ў большаснай.

Супраць ветру не падуеш.

На заканчэнне яшчэ адзін беларускі акцэнт. Перад удзельнікамі канферэнцыі выступілі дзеткі з беластоцкага беларускага прадшколля, якія прадэкламавалі некалькі вершаў і праспявалі некалькі песень на роднай мове, што было з захапленнем успрынята прысутнымі.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Гайнаўскі юбілей



*Гайнаўскі актыў.* Фота М. ВАЎРАНЮКА

„Калі гляджу на сабраных тут, — дзяліўся рэфлексіяй за абедзенным сталом **Кастусь Майсеня**, — дык бачу адну заканамернасць. Ніхто з нас, якія злучылі свой лёс з беларускай справай, не зрабіў кар'еры".

Словы гэтыя былі выказаны ў час урачыстага адзначэння 40-годдзя Беларускага грамадска-культурнага таварыства на Гайнаўшчыне, якое ўзнікла там 20 мая 1956 года, тры месяцы пасля ўстаноўчага з'езда ў Беластоку. З нагоды юбілею на 9-га чэрвеня ў Беларускім музеі быў скліканы адмысловы пленум Гайнаўскага аддзела Таварыства. Заслужаныя ў саракагоддзі дзеячы атрымалі ад Галоўнага праўлення памятныя дыпломы і керамічныя медалі. Уручалі іх старшыні БГКТ: ганаровы — Аляксандр Баршчэўскі і дзейсны — Янка Сычэўскі. На жаль, шмат хто з узнагароджаных у гэтую сонечную нядзелю не з'явіўся на сходзе.

Гісторыю БГКТ на Гайнаўшчыне прадставіў старшыня аддзела Міхал Голуб. Прыпомніў ён прозвішчы заснавальнікаў і ранейшых кіраўнікоў, некаторых з якіх ужо няма ў жывых. Іхнюю памяць прысутныя ўшанавалі мінутай маўчання.

У Гайнаўскім павеце ў пачатку 60-х гадоў існавала 47 гурткоў БГКТ, якія аб'ядноўвалі некалькі тысяч членаў. Пашыралася беларуская асвета, жыхары горада і ваколіц азнаямляліся з беларускай культурай і пісьменствам, арганізаваліся народныя фэсты, песенныя і тэатральныя агляды, папулярнасцю карысталіся аўтарскія сустрэчы. Разыходзілася каля дзвюх з паловаю тысяч паасобнікаў „Нівы". Аляксандр Баршчэўскі назваў Гайнаўшчыну цэнтрам беларускага грамадска-культурнага жыцця ў Польшчы. „Тут найбольш фальклорных калектываў, — казаў ён, — на маю думку, каля дзвюх трэціх усіх школ, у якіх навучаецца беларуская мова; арганізуюцца такія аграмадныя мерапрыемствы як Купалле ў Белавежы, будуецца музей, які будзе таксама беларускім культурным асяродкам".

Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхаіл Слямнёў падкрэсліў вельмі добрую атмасферу ў Гайнаўцы: „Я тут часты госць і заўсёды адчуваю сябе быццам на радзіме". Консул жадаў гайнаўскім дзеячам як мага лепшых эфектаў у працы на ніве роднай культуры. Перадаў таксама юбілейныя віншаванні ад пасла ў Варшаве Віктара Бурскага і генеральнага консула ў Гданьску Анатоля Бутэвіча.

У час святкавання перад сабранымі запрэзентаваліся два мясцовыя беларускія калектывы: дзявочы спявачы гурт з тамашняга беларускага ліцэя і хор Гайнаўскага дома культуры. Імпрэза закончылася застоллем і танцамі.

Неўзабаве гайнаўскі актыў чакае другое спатканне, ужо не святочнае, а дзелавое. На 23 чэрвеня запланаваны сход членаў Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея. Трэба вырашыць, што далей будзе з гэтым аб'ектам і ці, у сувязі з прыбліжэннем моманту заканчэння інвестыцыі, Камітэту не развязацца.

**Мікола Ваўранюк**

# старонка ліцэіста

## „Эй... белліцэй...”

Сёлета, як і ў мінулыя гады, заявы аб прыняцці ў II ліцэй у Гайнаўцы падалі больш за 100 асоб. Чым яны кіраваліся ідучы менавіта сюды? Я паставіў ім пытанне: Чаму беларускі ліцэй? Ну, гэта новая школа, добра забяспечана абсталяваннем, з настаўнікамі можна жыць. Дык чаму **беларускі** ліцэй? Не, не беларускі, — адказваюць, — толькі з беларускай мовай навучання, а гэта розніца. Цяпер вялікая...

Прайшлі амаль два гады з моманту, калі я пераступіў парог гэтай школы. Многа думаў аб ярлыку вучняў бел-ліцэя — „зялёныя з антэнкамі”. У Гайнаўцы заўжды існаваў падзел на ліцэі беларускі і „польскі”. Тэарэтычна антаганізмаў між імі няма, але толькі тэарэтычна.

Пачаткі ў новай школе былі такія самыя, як у кожнай іншай. Знаёмства з сябрамі, настаўнікамі. Усё новае, што з'яўляецца выклікам. У шчырых размовах з сябрамі са школы памалу выяўлялася іхняя боязь перад „абеларушваннем”. Сапраўды, рыгарычныя сцвярджанні некаторых настаўнікаў, што ўсе мы беларусы, або разрысоўванне сілком генеалагічных дрэваў, стварала грунт для бунту, злавання, супрацiву. Перапрывала гэта па сённяшні дзень, а вынікі — вядома, адваротныя да намераных. Насільна не ўдасца прывіць вартасці. Сапраўднасць такая, што моладзь хоча вучыцца ў ліцэі н-р 2, а нацыянальнасць, або хутчэй за ўсё, яе нястача, не з'яўляюцца дастаткова важным аргументам, каб сабе дурыць ім галаву.

Першы ўрок беларускай мовы ў маім, хутчэй за ўсё „гарадскім” класе выглядаў так, што „Добры дзень” настаўніцы сустрэты быў здзіўленнем і дыскрэтнымі ўсмешкамі вучняў. А так, праўду кажучы, урокі беларускай мовы для большасці гэта непазбежнае зло, а не прычына існавання школы. Дык няма дзіва, калі хтосьці, хто не меў адвагі падпісацца пад сваім артыкулам, так пракаментаваў на старонках школьнай газеткі факт з'яўлення на мурах школы абразлівых надпісаў.

„Jesteśmy uważani za odmieńców, kogoś innego, i, co wynika z tych napisów, nie jesteśmy uważani za prawdziwych Polaków”. Далей ідзе дэфініцыя (паводле аўтара) чалавека? — беларуса, якой лепш не прыводзіць.

У чым яшчэ праяўляецца гэтае страшэннае „абеларушванне” вучняў? Вось, адбываюцца беларускія конкурсы, конкурсы, конкурсы. Часам пачуеш слова па-беларуску на калідоры. Ну і, вядома, школьны ансамбль у рэпертуары „з традыцыяй у сучаснасць”. Быццам бы гэтага было мала на „Польсаце”.

Каб вучыцца ў нашым ліцэі, хопіць быць чалавекам з годнасцю і мінімумам талерантнасці да іншага чалавека. Калі хтосьці мае комплексы на тым пункце, дык безумоўна памыліў адрас. Кіньма саромецца прызнавацца недзе далёка ў Польшчы, у якім ліцэі вучымся. Тых, хто гаворыць на штодзень пабеларуску, давайце не лічыць крайнімі нацыяналістамі, толькі людзьмі як іншыя. Ды яшчэ — нешта давайце сваімі паводзінамі сведчыць, што „ўфалюдкі”, якія вучацца ў басейнах „disco-polo” гэта не мы. Хіба, што нехта гэтага хоча.

Сонечных канікулаў, дарагія сябры!

**Тамаш Саевіч**

## Псеўдатарасэвіч

Месяц таму вучні першага і другога класаў гайнаўскага белліцэя паехалі на сустрэчу з мастаком Лявонам Тарасэвічам у яго хату ў Валілах. Кожны з нас быў пад уражаннем нечага — пачынаючы з асобы самога мастака, праз яго карціны, на птушках і прыгожым краявідзе канчаючы. Кожны зрабіў для сябе нейкія высновы з доўгай гутаркі з мастаком. Сустрэча дала вынікі ў выглядзе школьнай парты размаляванай у матывы з карцін Лявона Тарасэвіча. Парту можна глядзець у школе ў працоўны час. Талоны можна набыць у сакратарыяце школы. Псеўдамастака да гэтай пары не ўдалося выявіць.

**Тамаш Саевіч**



*Сапраўдны Тарасэвіч падчас сустрэчы.*

## Аўтабіяграфія

Я, Катажына Сахарчук, кажу Катажына, бо хаця я сваё імя вельмі люблю, то не падабаецца мне Кася або Касюля. Нарадзілася я 19 студзеня 1977 года; гэта была серада. Як мама кажа, такога дня яна не забудзе, колькі будзе жыць, таму што ніколі ў жыцці яна так не баялася (я таксама гэтага дня не забуду, але не таму, што я баялася — я проста рвалася на гэты грэшны свет). Калі я з'явілася, мела пяцьдзесят сантыметраў даўжыні, а важыла тры кілаграмы з лішнім. Спачатку бацька быў незадаволены, таму што ён хацеў стварыць футбольную каманду, а я парушыла яго планы, але ў канцы канцоў вымушаны быў пагадзіцца з маім існаваннем. Тым больш, што суседкі казалі, што будуць з мяне людзі. Расла я здаровай, па сценах не пісала, ахвотна ела каўбасу, яблыкі, папівала маміным малаком. Усім было відаць, што расце разумны чалавек.

Першага верасня 1983 года паступіла я ў пачатковую школу. Праблемаў са мной у школе не мелі. Толькі адзін раз у першым класе я паставіла на месца Радка — Хухачка, і за гэта першы і апошні раз была пакарана. Потым я была ўжо беспраблемным вучнем. Да таго я стала старастам класа і трэба было весці сябе ўзорна. Калі я скончыла шосты клас, у школе адбыліся выбары старшыні школьнага самаўрада. Што ж я магла страціць? Я ўзяла старт і пры дапамозе класных сяброў выйграла. Сваіх працэўнікаў палажыла на лапаткі. Ад таго часу пачаўся вельмі цяжкі перыяд у маім жыцці; хаця я працавала як дзікі асёл, усе на мяне крычалі.

Маёй найбольшай марай у той час было быць занесенай у „Залатую кнігу школы”. Я гэта адхварэла, але ўпісалі мяне ў тую кнігу і да ўсяго таго я здала экзамен і трапіла ў ліцэй.

У гэтай школе пачаўся новы перыяд, які яшчэ не скончыўся, а прынёс многа змен. Я знайшла новых сяброўак, закахалася (але хлопец быў такі „цэп”, што не разумеў мяне), першы раз я паехала на некалькі дзён без апекі пад палатку, упершыню папала на забаву. Мне так падабаецца ў гэтай школе, што я гатова парушыць свае правілы і свядома астацца на яшчэ адзін гадзік.

**Катажына Сахарчук**

Асоба Кацярыны Сахарчук набыла вядомасць з часу, калі яна выйграла I Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. Аўтабіяграфію падрыхтавала загадзя. Відаць прадчувала, што спатрэбіцца. Школу ўсё ж такі скончыла — **рэд**.

## Мала глядзець — трэба бачыць

З 16 красавіка цэлы месяц у Гайнаўскай публічнай бібліятэцы ім. Тадэўша Ракавецкага можна было глядзець фотавыстаўку Уладзіслава Завадскага „Wsi spokojna, wsi wesoła...”

Здымкі прадстаўленыя на выстаўцы нетыповыя, бо выкананыя тэхнікай „fish eye” (рыбінае вока). Чорна-белыя фотаздымкі па-мастацку дэфармаваныя, што прыдае створаным вобразам зусім новае эстэтычнае вымярэнне.

Аўтар — гэта фатограф-любіцель, па прафесіі інжынер механік-канструктар, а па паходжанню беларус. Як сам кажа, ад самога пачатку здараліся перыпетыі з яго імем і прозвішчам.

— Падчас хрышчэння мне павінны былі даць імя Уладзімір, але кумы пераблыталі нешта ў запісе і далі Уладзіслаў. Пасля, калі мне былі патрэбны дакументы ў ВУЗ, не мянялі запісаў і я застаўся Уладзіславам. Мае далёкія продкі былі прыезджыя, ад іх мне засталося прозвішча Завадскі.

***— З чаго пачалося Ваша захапленне фатаграфіяй?***

— Я здымаю змалку. Першы свой фотаапарат я дастаў усё-такі толькі ў сярэдняй школе. Гэта была старая „Смена”. Пасля, калі маё хобі развілося, я купіў сабе лепшую фотакамеру. Паступова я сабраў да яе абсталяванне: тэлеаб'ектывы, насадкі. Выдаў на гэта ўсе свае грошы. Тады цяжка было дастаць такія рэчы, часта купляў іх ад знаёмых. Некаторыя, бачачы такога „напаленца” патрабавалі большых грошай, чымся раней, а я, вядома, плаціў.

***—Якое значэнне мае для Вас свая творчасць?***

— Фатаграфія гэта для мяне ўцёкі ад штодзённасці. Найбольш люблю здымаць прыроду. Маю нават свае ўлюбёныя поры года. Гэта снежная зіма і веснавое паўнаводдзе. Калі іду лесам, адразу бачу, што вартае ўвекавечання. Мала глядзець — трэба бачыць. Часам на здымку не атрымоўваецца так, як бачыцца ў рэчаіснасці. Вельмі важнае святло. Гэта яно мастак у фатаграфіі. Ніколі я не ставіўся да таго, што раблю, матэрыяльна. Фатаграфія ў сённяшні час ніякім чынам не аплачваецца. Магчыма толькі прэсавая фатаграфія. Любіцелі здымаць прыроду ў гэтай прафесіі не разбагацеюць.

***— Дык чаму робіце фотаздымкі, калі гэта інвестыцыя, якую немагчыма калькуляваць.***

— Гэта для мяне перш за ўсё прыемнасць. Да таго часта раблю выстаўкі: у педагагічнай і публічнай бібліятэках, Гайнаўскім доме культуры. Некалькі разоў пасылаў свае здымкі на конкурсы. Некалькі гадоў таму на Агульнапольскім фатаграфічным конкурсе узяў I месца. З гэтым таксама звязаны адзін анекдот. Я ўсе фотаздымкі запісаў на прозвішча маёй жонкі. Калі былі абвешчаны вынікі конкурсу, знаёмыя пыталіся яе пра так доўга скрываныя творчыя схільнасці.

***— Ці вы ніколі не хацелі стаць прафесійным фатографам?***

— Не, ніколі аб тым не думаў. Пакуль трактую гэта як хобі, магу сабе дазволіць на тэхнічныя недахопы. Апрача таго, здымаючы мушу мець натхненне, мушу гэта перажыць. Я не мог бы рабіць гэта на акрэслены тэрмін.

***— Ці маеце перайманьнікаў у сям'і, або ў школе, дзе вы працавалі?***

— І так, і не. Мая жонка не падзяляе маіх зацікаўленняў, але з дачкой часам сядаем на веласіпеды і едзем з цэлым абсталяваннем у лес. Да таго маю тут некалькі знаёмых, з якімі ахвотна адпраўляюся на „паляванне”. Калі я быў настаўнікам, стварыў фатаграфічны гурток і навучаў асноў, а пасля ўсяго, што сам умею.

***— Ці вы некалі мелі свайго ідала ў фатаграфіі?***

— Так, ёсць такі фатограф — Павел Персцяніцкі (прэзідэнт Саюза фатографаў, стваральнік Кялецкай школы фатаграфіі), захоплены сваёй Кялецкай зямлёю. Ягоная дзейнасць натхняе мяне стварыць аграмадны цыкл фотаздымкаў нашай Беластоцкай зямлі. Яна ж таксама прыгожая. Мару аб выданні альбома з маімі фотаздымкамі Беласточчыны.

Уладзіслаў Завадскі апрача фатаграфіі займаўся таксама веласіпедным спортам (надалей любіць ездзіць), сталярствам і збіраннем драўляных барэльефаў, фотаздымкаў (не толькі сваіх) з выявамі звяроў, пушчы і наогул прыроды.

Аліна Грыц — куратар выстаўкі „Wsi spokojna...” завярае, што ў будучым будуць паказвацца і іншыя працы спадара Уладзіслава Завадскага.

**Кацярына Бонда**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Конкурс! Конкурс! Конкурс!**

Адкажыце на пытанні. Адказы дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

1. Назавіце прынамсі двух славутых беларускіх спартсменаў.

2. Колькі ў Еўропе каралеўстваў? Назавіце іх.

3. Дзе нарадзілася беларуская паэтэса Надзея Артымовіч?

## У Ласінцы



*Вучні і настаўнікі з Ласінкі.*

Усе вучні Пачатковай школы ў Ласінцы вывучаюць беларускую мову.

— І не было так, каб нехта з бацькоў намагаўся гэта змяніць, — гаворыць Вера Дудзіч, дырэктар школы.

Стопрацэнтнае навучанне роднай мове становіцца добрай традыцыяй школы. У Ласінцы вучыцца 71 дзіця.

* * *

Ласінку наведала я ў спякотны, сонечны дзень. Многія дзеткі гулялі на прышкольным панадворку. У грамадзе ніхто не гаварыў па-польску.

— Нават калі ў хаце прымушаюць карыстацца польскай мовай, у школе, на перапынках і так усе гавораць па-свойму (на дыялекце), — гавораць настаўнікі.

Янка Грынявіцкі, настаўнік польскай мовы адзначае, што веданне роднае мовы не мяшае дзіцяці пазнаваць польскую мову. Наадварот, калі дзіця двухмоўнае, лепш карыстаецца і польскай мовай, і беларускай.

У Ласінцы цікавыя дзеці. Нядаўна ў „Зорцы” мы пісалі пра „Лісічкі”. Гэтая дзіцячая група расславіла не толькі сваю мясціну. Дзякуючы творчай працы, дзеці пазнаюць родную спадчыну і традыцыі. Дзеці таксама спяваюць у дзіцячым царкоўным хоры.

— Спяваць пачалі мы, — гаворыць апякунка „Лісічак” матушка Аліна Кос, — проста з патрэбы.

Праца з дзецьмі хутка сталася прыемнай і надзейнай. Дзяўчаткі з „Лісічак” не адступалі ад матушкі Аліны Кос.

— Бывала, як расспяваемся, то дзеці дахаты не пускаюць, — расказвае яна пра энтузіязм наймалодшых харыстаў.

— У будучыні хацелі б мы заснаваць вялікі ансамбль.

Але пакуль што, змагаюцца з цяжкасцямі — гукаўзмацняльнікамі, рэпертуарам. Аліна Кос адзначае, што дапамагае ім Генадзь Шэмет з Нарваўскага дома культуры. „Лісічкі” выступалі не толькі на аглядзе беларускай дзіцячай песні. Яны таксама ўдзельнічалі ў конкурсе калядак. Варта дадаць, што ў спявачай групе займаюцца дзеткі ад прадшколля па трэці клас. У Ласінцы вучыцца Паўлінка Пашко. Дзяўчынка ходзіць у трэці клас. Яна не толькі выдатная салістка „Лісічак”, але і дэкламатарка беларускай паэзіі.

— Калі ў нас была ёлка, — адзначае Валянціна Базылюк, настаўніца беларускай мовы, — Паўлінка выступала аж у шасці нумарах праграмы.

Настаўніца ўспамінае таксама пра ўдзельнікаў прадметнага конкурсу па беларускай мове. З іх школы ўдзельнічала двух васьмікласнікаў. Ласінская школа можа пахваліцца таксама сваімі дасягненнямі ў галіне спорту. Бажэнка Філіпюк і Ася Баўтручук, лаўрэаткі ваяводскіх тэнісных спаборніцтваў, заваявалі VI месца ў паўночна-ўсходнім макрарэгіёне. Заняткі па фізкультуры ў Ласінцы вядзе Яўген Кавальскі.

* * *

Цікава было сустрэцца з выдатнікамі па беларускай мове і лаўрэатамі зорчыных конкурсаў. Найбольш актыўнай карэспандэнткай, удзельніцай конкурсаў ёсць Патрыцыя Кос, вучаніца пятага класа.

Дзеці пацікавіліся працай рэдакцыі і Сустрэчамі „Зоркі” Трэба спадзявацца, што ў будучыні і ласінскія вучні будуць прымаць удзел у творчых паездках па Беласточчыне.

У Ласінцы дзеці часта наведваюць мясцовую бібліятэку. Пазычаюць яны і беларускія кніжкі. Сярод паклонніц беларускай кніжкі Валянціна Базылюк называе прозвішчы Ані Сухадолы, Бягусі Паскробка і Данелі Дудзіч.

* * *

— Наша школа старэе, — гавораць настаўнікі. — Амаль кожны год праводзяцца тут рамонты.

— Адзіным станоўчым выхадам была б пабудова новай, функцыянальнай школы, — кажа дырэктарка школы.

У Ласінцы многа маладых сем’яў, дзяцей. На думку бацькоў і настаўнікаў трэба змагацца за новую школу.

— Вёска без школы адмірае, — адзначаюць мае суразмоўцы.

Варта пра гэта памятаць. Тым больш, што ў Ласінцы з пашанай ставяцца да беларускасці. На Беласточчыне працуюць толькі дзве такія школы, дзе ўсе вучні вывучаюць беларускую мову.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

## Малюты нашы гулялі ў Тапільцы

Жаркае надвор’е на схіле месяца мая і ў пачатку чэрвеня прымусіла бацькоў задумацца, што такое наладзіць сваім дзеткам, каб іхняе свята было прыемным і бестурботным. Можна ж, праўда, прыкупіць новыя цацкі, карамелькі, жвачкі, снікерсы і г.д. — але ці застанецца ад гэтага Дзіцячы дзень у памяці нашых малютаў?

Бацькі і настаўнікі прадшколля № 14 у Беластоку паслухалі голасу матушкі **Аліны Якімюк** з Тапільца, якая на 2 чэрвеня г.г. запрапанавала гасціну ў сваёй парафіі. А трэба ж тут сказаць і тое, што ў прадшколле № 14 ходзяць беларускія дзеткі, якія складаюць там два аддзелы — малодшы і старэйшы. У занятках гэтых груп удзельнічаюць і дзеці самой матушкі — Мікалай (ён жа Колька) і Ігар.

Бацькі сталі арганізавацца да Дзіцячага дня. Яны арганізаваліся, арганізаваліся і... на пацеху сваім дзецям — усё ўдалося палагодзіць як трэба. 2 чэрвеня (была гэта нядзелька) каля дзевятай гадзіны пад прадшколле заехаў аўтобус і адразу стаў напаўняцца ўсхваляванымі прадшкольнікамі і іхнімі бацькамі. Дзеткі ўсю дарогу ў Тапілец скакалі, гаманілі, шумелі і спявалі песні з „Юр’еўскага карагода” (*Я пасу авечкі, каля самай рэчкі...*).



*У час маёўкі. Сара і Оля (беластоцкія прадшкольніцы) са сваім сябрам Алікам з Бельска-Падляшскага.*

Калі ўсе мы заехалі на месца, бацюшка **Слававмір Якімюк** правіў багаслужбу ў царкве. Тапільскі прыход з’яўляецца нешматлікім. Як сказаў нам бацюшка, налічвае ён сто душ у актуальны час. Малалікасць праваслаўных у Тапільцы і наваколлі заўважвалася ў час багаслужбы. Калі ўсе мы зайшлі ў царкву, то лік вернікаў у ёй павялічыўся ўтрая. Дзеткам, што тут і казаць, не вельмі стаялася на багаслужбе — бацюшку Якімюку ў літургіі прыслугоўвалі ягоныя сыны Колька і Ігар. Яны ўсе, як добрыя знаёмыя з прадшколля ў Беластоку, махалі да сябе рукамі ў знак прывітання, таямніча ўсміхаліся ды рабілі шмат што іншае — толькі ім вядомае. Але, пад канец багаслужбы, усе дзеткі *гжэчна* падышлі да прычасця.

Прыйшоў час абеду і пацехаў. На абед матушка нарыхтавала суп, а дзеля пацехі — было вогнішча і печаныя ў ім каўбаскі. Здавалася, што дзеці моцна намазоляць сваім бацькам, але нічога такога не сталася. Зараз жа на іх чакаў безліч конкурсаў, за якімі сачылі прадшкольныя настаўніцы з матушкай Алінай. У конкурсе кідання мяшочкам асаблівай шпаркалётнасцю вылучыўся трохгадовы здаравяка **Тамаш Максімюк**. Быў таксама конкурс з удзелам бацькоў. За гульнямі пры сонечным надвор’і прайшоў у Тапільцы ўвесь Божы дзень. Вяртацца давялося а шостай гадзіне.

Хочацца на заканчэнне сказаць, што беларускае прадшколле ў Беластоку мае і сваіх сяброў па-за гэтым горадам. У іхнім ліку **Алік Ваўранюк** з Бельска-Падляшскага (на здымку), які далучыўся да гэтай кампаніі яшчэ зімою — у час пастаноўкі „Калядніка”. У Тапілец да беластоцкіх прадшкольнікаў даехалі новыя сябры — **Давід, Ксэня** і **Яша Саснюкі** з Бельска-Падляшскага.

**Марцін Пштычка**

*Фота Аліны Ваўранюк*

### Мая Беларусь

Чаму гэтак у жыцці бывае,
Што не ведаючы аб Ёй, спяваем
Пра Айчыну; ад роднага краю,
Беларусі, далёка я, айчына другая
Ў мяне. І Беласточчына мне дарагая.
І моцна Зямлю сваю я кахаю,
Дзе нарадзіўся і дзе пражываю,
І сувязь у сэрцы сваім адчуваю
З Вялікай Айчынай — у вяках
ажываю.
Як хочацца піць — так і я выпіваю
І словы, і мары, і шчасце для Краю.

**Міхась Дзмітрук,**
**ПШ у Курашаве**

### Мая айчына

Мая Айчына гэта Беларусь,
у якой шчаслівыя жывуць,
гавораць на роднай мове
па-беларуску, слова па слове.

Той прыпомніць, хто забудзе,
бо разумныя ўсе людзі.
Мая Айчына — Беларусь,
а значыць гэта — вольная русь.

**Аня Тэслюк,**
**ПШ у Новым Корніне**

### Бусел у палёце бясконцым

Вясна гэта пара года.
На палях стаіць вада.
Бусел ляціць да сонца,
У палёце бясконцым.

На дрэвах лісце зелянее,
Жаваранак вясёла падпявае.
Трава зялёная, маладая,
Сама свежая і веснавая.

Дзень вясной даўжэйшы,
І таму ён весялейшы.
Ночы карацейшыя,
Прыемна-цяплейшыя.

**Анеля Гаўрылюк,**
**ПШ у Старым Корніне**

# Родная мова

Даўно таму жыла маці з маленькім сынам Янкам. Яна была бедная, але ўсё, што мела, аддавала сыну. Хутка ён вучыўся роднай мовы і дарастаў. Маці была шчаслівая, што ён такі добры і ёй памагае. Калі Янку было 20 гадоў, пачуў, што сусед выехаў за мяжу. Янка таксама вырашыў зарабіць вялікія грошы і выехаў у Англію. Там ён не ўмеў гаварыць па-англійску. Пайшоў ён да суседа і папрасіў, каб той навучыў яго гэтай мовы. Сусед прапанаваў яму змяніць імя. Янка падумаў і рашыў стаць Джэймсам. Палюбіў сваё імя і Англію. Хутка знайшоў ён таксама і працу ў тыднёвіку „Крас". Многа працаваў і многа зарабляў. Але сталася найгоршае... Ён забыў родную мову і не мог прачытаць пісьма, якое дасылала яму маці. Кінуў ён працу і паехаў наведаць матку. Прыехаўшы, прыбег дахаты і пабачыў, што яго мама худая, бледная. Тады матуля спытала Янку-Джэймса:

— Многа ты зарабіў, сыночак?

Янка не зразумеў, што мама сказала і адказаў ёй па-англійску. Мама заплакала, што сын ужо не ўмее размаўляць на роднай мове. Пачула аб гэтым суседка і пабегла расказаць людзям. Усе разгневаліся і прагналі Янку, а ён уцёк далёка за вёску, сеў на камень і пачаў плакаць. Тады пабачыў свайго памерлага бацьку і папрасіў:

— Тата, дапамажы мне, дапамажы...

І раптам пачуў шэпт:

— Я табе, сыночку, не дапамагу, таму, што ты сам мусіш сабе дапамагчы.

Янка пахіліў галаву, падумаў і сказаў:

— Татачка, я ўжо ведаю!..

Пабачыў, што бацькі няма і тады рушыў у далёкае падарожжа на гару Зорка. Калі ўздымаўся на яе, прыгануў сваю родную мову. Стаў на верхавіне гары, глянуў на Айчыну і крыкнуў на ўвесь голас:

— Людзі, не забывайце ніколі роднай мовы!!!

**Анна Тэслюк,**
**VI кл. ПШ у Новым Корніне**

**Ад рэдакцыі:** Дарагая Аня! Дасылаю табе цікавую кніжку „Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі". Гэта ўзнагарода за твае чароўныя апавяданні. Перадай прывітанне тваёй сям'і.

**Зорка**

# Вяселле нашых продкаў

*(працяг)*

Не ўсе вяселлі былі аднолькавыя. Падзяляліся яны на некалькі відаў: звычайнае, прымацкае, сіроцкае, удавецкае і г.д. У залежнасці ад віду вяселля выконваліся адпаведныя звычаі, песні. Напрыклад, удава не мела права надзяваць вянок, сіраце спявалі сіроцкія песні, прымацкае вяселле гулялі ў хаце жанчыны.

На вяселлі выконваліся такія абрады як расплятанне касы, благаславенне, выкуп маладой, абмен караваямі, абыход вакол стала. Госці і родзічы благаслаўлялі маладую сесці „на пасад" — на дзяжу.

У вяселлі ўдзельнічалі дзве дружыны: маладой і маладога. Кожная старана мела свае „абавязкі". У маладога — старшы сват, дружкі, свашкі, стараста (маршалак), у маладой — дружкі, браты. Кожнаму дружбанту прышпільвалі банцік з кветкамі. Жанатых значылі з правага боку летніка, халасцякоў — з левага. Сватоў перавязвалі ручнікамі.

Калі малады ехаў да маладой, яго благаслаўлялі. Разам з хлопцам ехала яго дружына. Дзяўчаты спявалі вясельныя песні. Гэты абрад выглядаў незвычайна маляўніча. Вяселле ехала на фурманках. Звонка звінелі бомы, каля дуг гойдаліся ручнікі, пахлі кветкі і галінкі, якімі аздаблялі фурманкі. Шпарка беглі коні, з шумам і звонам ехала па вуліцы вясельная світа. У вёсцы чакалі іх сюрпрызы-неспадзяванкі. Хлопцы і мужчыны з вёскі маладой спынялі абоз і патрабавалі „выкуп".

*(працяг будзе)*

# Цялятка

У маёй Красулі
Нарадзілася цялятка.
Слабое, малое,
А ў дадатку ў латкі.
Яно без мамы жыць не можа.
А хто ж яго напаіць зможа?
Толькі мама, Красуля,
Абліжа і прытуліць.

# Сэрца

Сэрца, гэта справа сумная.
Што ж тут зрабіць,
Каб яго палячыць.
Многа болю ў ім,
Многа шчасця ў ім...
Чаго ж ты, як скарбонка, звініш?
Сэрца слёзы пралівае,
Душу любоўю напаўняе.
Яно ўсім для нас.

**Ева Анішчук**
**VI кл. ПШ у Кленіках**

# Бывай, школа! Вітай, лета!

Школа ў Курашаве можа пахваліцца сваімі дасягненнямі ў навучанні беларускай мовы. Вядзе яе вопытная настаўніца Людміла Дзмітрук. Толькі шасцёра дзяцей не ходзяць рэгулярна на заняткі беларускай мовы (некаторыя з іх прыходзяць тады, калі ёсць нейкія гульні, ці настаўніца чытае казку!)

Амаль усе вучні чытаюць „Ніву" з „Зоркай", а некаторыя з іх нават сталі нашымі карэспандэнтамі. Міхась Дзмітрук з VIII класа апублікаваў нават некалькі сваіх вершаў у „Зорцы" і прысутнічаў на дзвюх сустрэчах карэспандэнтаў „Зоркі" — у Бандарах і ў Бельску. Разам з імі была і Яся Сегень.

На здымку вы бачыце вучняў курашаўскай школы. Сядзяць: Івона Андрасюк, Івона Мартынюк, Івона Артэмюк, стаяць вышэй: Яся Сегень, Агнешка Таранта, Аля Трусэвіч. Толькі першая дзяўчынка заканчвае сёлета восьмы клас і ідзе ў прафесіянальную школу, іншыя ж толькі сёмы. Ім ужо добра і спакойна: усе клопаты, звязаныя з вучобай, засталіся ззаду. Бывай, школа, вітай, лета!

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*



# Крыжаванка № 25

Адгадайце ўсе словы і ўпішыце іх у клеткі. Атрыманы лозунг (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку н-р 20.

**Лозунг крыжаванкі:** „Сапраўдныя сябры".

Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі:

**Міхась Кубайчук** — ПШ у Махнатым, **Анджэліка Сельвясюк** — ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Марцін Мялешка** — ПШ у Новым Корніне, **Марыля Тапалеўска і Галіна Галавачык** — ПШ у Кленіках.

**Віншуем!**

*(апрацавала Аня Тэслюк)*






Талон „Зоркі" № 25
23.06.1996

# Маршалак беларускай літаратуры

Сакрату Яновічу спаўняецца шэсьдзесят гадоў. З гэтай нагоды „Белавежа" наладзіла 8 чэрвеня навуковую канферэнцыю ў беластоцкім Філіяле Варшаўскага універсітэта.

Юбіляра віншавалі між іншым: Казімеж Дэркоўскі ад Ваяводскай управы (уручыў Сакрату драўляную скульптуру), Ежы Бісяк ад Міністэрства культуры і мастацтва, Генеральны консул РБ Міхаіл Слямнёў, Уладзімер Арлоў ад беларускага ПЭН-цэнтра, Ян Леанчук ад Саюза польскіх літаратараў (уручыў Сакрату адмыслова выкананую алегорыю з жартаўлівымі сцэнамі з усяго Сакратавага жыцця). Усіх перабіў Уладзімір Гніламёдаў, які ад імя Саюза пісьменнікаў РБ перапаясаў Сакрата вышываным ручніком як знакам прызнання яго маршалкам беларускай літаратуры.

Са свайго боку Юбіляр ад імя Літаб'яднання „Белавежа" ўручыў Уладзіміру Гніламёдаву, Норберту Рандаву, Уладзімеру Арлову, Васілю Белаказовічу адмысловыя памятныя медалі „Белавежы".

Навуковую частку канферэнцыі адкрыў прафесар У. Гніламёдаў, які сказаў пра Сакрата Яновіча: „Дык хто ён — Сакрат Яновіч? У чым яго феномен? Чым глыбей яго ведаем, тым больш ён здзіўляе маштабам і незвычайнасцю сваёй індывідуальнасці: паэт, празаік, эсэіст, публіцыст, аналітык, гісторык, культуролаг, сацыёлаг, псіхолаг, філасаф, мараліст і яшчэ, і яшчэ. Пры ўсім тым гэта чалавек з вельмі нізкім болевым парогам — мяккі і пяшчотны, тэмпераментны і ваяўнічы адначасова. Такім яго нарадзіла Беларусь XX стагоддзя, шматпакутная Беласточчына, якая з'яўляецца яго малой радзімай. Калі б ён жыў, умоўна кажучы, у Маскве, то гэта быў бы, можа, Салжаніцын, у Кіеве, скажам, Алесь Ганчар, у Мінску — другі Васіль Быкаў, у Варшаве — не ведаю (я слаба знёмы з пісьменніцкім асяроддзем). На Беласточчыне ён — Сакрат Яновіч, і гэтым многа сказана".

Пісьменніцкі стыль Яновіча дакладчык акрэсліў як блізкі „цяжкаму року", хаця літаратурнымі каранямі сягае барока.

Прафесар Норберт Рандаў прысвяціў свой даклад гісторыі перакладу беларускай літаратуры на нямецкую мову. Дарэчы, госць з Нямеччыны вывучыў беларускую мову і літаратуру, каб лепей разумець свайго швагра-беларуса. Паводле дакладчыка, цікаўнасць да беларускай літаратуры ў Нямеччыне прыкметна расце. Перадаў таксама прыемную вестку, што паказаўся сігнальны нумар часопіса „Остара", у якім зьмяшчаюцца пераклады твораў Сакрата Яновіча, Надзеі Артымовіч і Яна Чыквіна.

Прафесар В. Белаказовіч у сваім дакладзе падкрэсліў ролю эсэістыкі Юбіляра, якая стварае салідарнасць даўняй і новай Беларусі. На думку даследчыка, Яновіч — пачынальнік, які, часта выклікаючы бурлівыя, а то і скандальныя спрэчкі, прычыніўся да станаўлення новага погляду на гісторыю Беларусі.

Прафесар Арнольд Макмілін у дасланым дакладзе сцвердзіў, што ніводзін з сучасных беларускіх пісьменнікаў не перадаў прыгажосці роднага краю так, як Сакрат Яновіч.

У апошнім дакладзе праф. Ян Чыквін прадставіў асобу Юбіляра. Як адзіны адважна закрануў праблему эратызму ў творчасці Сакрата, адзначаючы „спецыфічную трактоўку жанчыны ў яе даматылёвай постаці". На жаль, дакладчык гэтай думкі не развіваў, хаця якраз тым, на наш погляд, і наблізіўся да сутнасці творчасці Юбіляра.

Сам Юбіляр заахвочваў да дыскусіі („каму што няясна"), пакуль ён яшчэ жывы. Мімаходзь заўважыў, што „вообще на Руси надо жить долго, чтобы нечто сделать".

У адказ У. Арлоў дэфініяваў гістарычны аптымізм, пра які раней згадваў Сакрат: „Усё будзе добра, толькі мы не дажывем".

Тут Сакрат расказаў, што калі збіраўся ў Беласток, яго маці спыталася: „А куды ты так выфранціўся?" Калі Сакрат каторы ўжо раз паясніў, што на свой юбілей, матуля аж здзівілася: „То табе ўжо шэсцьдзесят?! Асталося табе, значыцца, яшчэ сорак".

Як быццам на пацвярджэнне гэтых слоў Юбіляр прэзентаваў добрую форму. З годнасцю і цярпеннем выслухаў належную порцыю камплімэнтаў, а ад гальштука і ручніка вызваліўся толькі пасля абеду.

Дык яшчэ гэтых „толькі сарака", Сакраце! **Алег Латышонак**



*Прафесар Уладзімір Гніламёдаў ад імя Саюза пісьменнікаў Беларусі назначае Сакрата Яновіча маршалкам беларускай літаратуры.*

*Фота Міколы Ваўранюка*

**...Але праз іх згануць пра Курашава!**

# Не забыцца пра „Незабудкі"!

Цяжка быць на вёсцы актыўным для асяроддзя чалавекам, а асабліва калі ты — жанчына. А Ніна Грыгарук з Курашава аж чатыры разы (цэлых 16 гадоў) была раднай Чыжоўскай гміны, 22 гады да сёння — член наглядальнай рады Спулдзельчага банка ў Гайнаўцы, 20 гадоў была старшынёю гуртка вясковых гаспадынь у Курашаве. А пры ўсім гэтым — дом на галаве, дзеці, гаспадарка...

Актыўны чалавек Ніна Грыгарук дваццаць гадоў таму стварыла ў Курашаве фальклорны калектыў, які пасля назваўся „Незабудкамі". Сёлета, у лістападзе, будзе яго юбілей.

Усюды мы ездзілі спачатку з настаўніцай курашаўскай школы Кацярынай Бай, успамінае Ніна Грыгарук, яна дапамагла нам арганізаваць калектыў і была нашым дарадчыкам. Як заспявалі мы першы раз на дажынках у Курашаве, дык і пастанавілі: будзе калектыў!

Спявалі мы нашы, старадаўнія песні, прыязджалі да нас тады з Бельска інструктары Сяргей Лукашук, Лявон Кудзін. Выступалі мы ва ўсіх суседніх мясцовасцях — у Чыжах, Гайнаўцы, Семяноўцы, Беразове, Тыневічах, Бельску. Пасля пачалі браць удзел у аглядах беларускай песні ў Беластоку і ў розных іншых мерапрыемствах, але не сказаць, каб мы выступалі занадта часта.

Пару гадоў таму, працягвае свае ўспаміны Ніна Грыгарук, мы былі ў Сопаце на фестывалі украінскай песні. Ну, запрапанавалі нам. Я падумала: няхай бабы ўбачаць кавалак свету. А як нас там прынялі багата! Завезлі, карміліпаілі, жылі мы ў добрым інтэрнаце, узнагароды атрымалі каштоўныя, аўтобус — люкс... Чамусьці ўкраінцы маюць грошы! Многія нашы бабы ў жыцці больш на такую экскурсію не паедуць.

Шкада, што ў нас няма такіх сродкаў, — уздыхае кіраўнічка калектыву, але што ж, мы былі і застанемся беларусамі...



*Ніна Грыгарук.*

Цяпер, калі Ніна Грыгарук ужо на пенсіі, а дарослыя дочкі — у Беластоку, яе актыўнасць не толькі не зменшылася, а, можна сказаць, стала яшчэ большай. Яна тут і прадаўшчыца ў „пронарскай" краме, і даглядае клуб, і надалей кіруе калектывам. Ды калі што якое, дык і салаты ды мясныя вырабы з жанчынамі з вёскі робіць.

Калі пачыналі спяваць, у калектыве было 10 чалавек. На працягу многіх гадоў людзі змяняліся, але калектыў застаўся. З тых пачынальнікаў, праўда, засталося ўсяго чацвёра, але ўвесь калектыў налічвае 8 жанчын. Гэта: Ніна Грыгарук, Люба Аніщчук, Ірэна Заянчкоўская, Марыя Яканюк. Надзея Гаўрылюк, Зінаіда Мартынюк, Мар'я Сапяжынская і Яніна Грыгарук. Ёсць яшчэ і музыкант Сяргей Аўксянцюк.

Калектыў надалей стараецца зберагчы найбольш каштоўнае ў нашай культуры — свае, старадаўнія рэгіянальныя песні. Жанчыны маюць афіцыйны дазвол войта на праведзенне рэпетыцый у клубе. Адным словам, маюць сваё месца.

Для іх гэтыя спатканні на рэпетыцыях ды выезды на канцэрты гэта як ясны промень у поўным клопатаў сялянскім жыцці. Мужчыны не надта любяць, калі іх жонкі ў раз'ездах. Кажуць тады: о, пацягліся ўжо! А людзі на гэта: **але праз іх згануць пра Курашава!**

Ці будуць святкаваць свой юбілей 20-годдзя? О, напэўна! Толькі невядома, ці ўдасца зрабіць гэта ў лістападзе. Калі штосьці не выйдзе, дык зробім гэта на будучы год вясною. Калі будзем святкаваць, кажа упэўнена кіраўнічка калектыву, нешта дасць дырэктар Мартынюк з „Пронару", гміна. Ды і дырэктар Бушко з Гайнаўскага дома культуры заўсёды дапамагае. Неяк не бярэ нас пад увагу Беларускае таварыства, а хацелася б, каб падумалі б там пра нейкага інструктара, які б па меры магчымасці і да нас даязджаў рэгулярна... Ну, і каб, вядома, ведаў і любіў нашу тутэйшую песню. Ды і з касцюмамі спявачкі маюць праблемы. 20 гадоў спяваюць у сваіх строях, што самі пашылі, калі гміна закупіла ім матэрыял. Іншыя калектывы маюць ужо вунь якія, „сапраўдныя" касцюмы!

Можна не зусім згаджацца з поглядамі Ніны Грыгарук наконт вопраткі. Невядома, ці лепшыя пры старадаўніх песнях былі б блузкі, вышываныя ўласнымі рукамі, ці трафарэтныя „казённыя" касцюмы, зробленыя „на адно капыта". Ясна адно: жанчыны з Курашава адчувалі б сябе ў пашытых спецыяльна для іх аднолькавых касцюмах больш упэўнена і раўнапраўна з іншымі. Чыжоўская гміна не бедная, напэўна дапаможа, калі Беларускае таварыства возьмецца за гэту справу. Трэба зрабіць гэта неадкладна, не чакаючы, пакуль выручаць іх у гэтым іншыя.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

Мацей Канапацкі

# Татары на беларускі лад

Саракагадовы юбілей „Нівы" паварушыў маё сумленне. А яно грэшнае. Я ж у вялікім даўгу перад беларускім штотыднёвікам, не друкуючыся ў ім, уласна кажучы, ад таго часу, калі пераехаў у Сопат па сямейных прычынах.

На юбілеі не быў, аднак, як адзначаў у пісьмах майму колішняму галоўнаму рэдактару Георгію Валкавыцкаму і зараз узначальваючаму „Ніву" Яўгену Мірановічу, духоўна абяцаў прысутнічаць у Беластоку ў гэты знамянальны час. Адлегласці не маюць тут ніякага значэння, тым больш, што я звязаны з гданьскай „Беларускай хаткай", а яна паслядоўна спрыяе мне і надалей знаходзіцца ў беларускай плыні.

Пішучы гэтыя словы, адчуваю моцны прыліў асабліва чуллівых пачуццяў, агортваючых сабою час амаль саракагадовай даўнасці, калі ўпершыню пераступіў я парог рэдакцыі „Нівы" яшчэ на вуліцы Маніфесту Ліпцовага. Гэта быў 1957 год. Такім чынам я апынуўся ля вытокаў беларускай публіцыстыкі ў Беластоку. Праўда, год раней ужо звязаўся з варшаўскай беларушчынай і такім чынам пракладаў шлях у „Ніву", аднак акрамя адзінага артыкула ў ёй, больш не друкаваўся. А дэбютаваў я ў 20 н-ры „Нівы" ад 15 ліпеня тэкстам аб перакладчыцкай дзейнасці Янкі Купалы, які прысвоіў беларускай моветворы Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі і Марыі Канапніцкай.

І так пачалося...

Яшчэ заўчасна на ўспаміны, хаця найбліжэйшае маё асяроддзе не дае спакою і проста прымушае ўзяцца за іх. Сёння не маю права пазбегнуць пэўнага для мяне каштоўнага гістарычнага факта. Вось побач ляжыць пісьмо тагачаснага супрацоўніка літаддзела „Літаратуры і мастацтва" Сцяпана Хусейнавіча Александровіча. Працытую першы сказ: „Была ў нас у рэдакцыі цёця Ўладзя (жонка Янкі Купалы — мая заўвага) і я даведаўся Ваш адрас. Прызнацца, я ўжо збіраўся напісаць Вам ліст. Мы ў рэдакцыі чытаем Вашы вельмі слушныя і цікавыя артыкулы ў „Ніве" і з вялікай прыемнасцю змясцілі б Ваш артыкул у нашай газеце..."

Выбачайце, дарагія чытачы, за нясціпласць, што змясціў гэтыя словы, аднак яны далі пачатак маёй любімай тэматыцы ў „Ніве", пазней у польскамоўным друку, у радыё. Гэта аказалася неацэннай падтрымкай, асноўным штуршком, ідучым з нетраў інтэлектуальнага руху Беларусі.

Калі ў снежні бягучага года ў Мінску будуць адзначацца 75-ыя ўгодкі нараджэння заўчасна памерлага Сцяпана Х. Александровіча, тады ўжо публічна выкажу мае думкі, падзялюся ўспамінамі пра вучонага, перш за ўсё фактамі, маючымі адносіны да шчыльнага з ім супрацоўніцтва ў галіне даследаў беларуска-польскіх сувязей у літаратуры.

Дзякуючы „Ніве", а разумеецца, што персанальна-сяброўскім адносінам да мяне Г. Валкавыцкага, увогуле цэлага калектыву „Нівы", мог я, пачынаючы з 1957 года ўзнімаць гэтую тэматыку. Мой перыяд працы ў „Ніве" лічу цудоўнай духоўнай прыгодай. Аб ёй я яшчэ раскажу, зразумела, на гэтых старонках.

Зараз спынюся на пытанні, якое з'яўляецца часткай шматвяковага татарскага працэсу ў гісторыі трох народаў: беларускага, польскага і літоўскага. Зразумела, у нашым выпадку, спецыяльную ўвагу прысвячу татарам на беларускі лад. А нагода дзеля гэтага незвычайна важная. У 1997 годзе ў нашай частцы Еўропы адзначаем 600-годдзе пасялення татарскіх воінаў і іх сем'яў. Падставай для гэтай падзеі з'яўляецца адзін з фрагментаў хронікі Яна Длугаша. Вялікі польскі летапісец пакінуў нашчадкам нататку аб заснаванні татарскіх паселішчаў у Вялікім княстве Літоўскім, менавіта ў 1397 годзе.

Татары татарамі, а справа тут міжцывілізацыйнага маштабу. Чаму? Каб паясніць, павінен я яшчэ раз успомніць 1957 год, аднак зараз у іншай маёй публіцыстычнай дзялянцы. Тады працаваў я ў Польскім прэсавым агенцтве (Polska Agencja Prasowa) у Варшаве; уключыўся ў папулярызацыю мінулага і сучаснасці татараў, караімаў, яўрэяў, армянаў у ПАПаўскіх матэрыялах. Да гэтага абавязвалі мяне, а таксама маіх супрацоўнікаў пастулаты Польскай рабочай групы „Праекта Усход—Захад", заснаванай у 1957 годзе па ўказанні IX Сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў Нью-Дэлі. Сесія вырашыла абнародаваць патрэбу ўсялякіх міжнародных і рэлігійных мерапрыемстваў на карысць узаемапазнання ўкладу Усходу і Захаду да агульнай чалавечай цывілізацыі. А прынамсі татары, як трывалы след мусульманскага свету сярод славянскіх і літоўскага народаў, уяўляюць сабою дадатковую крыніцу ведаў аб жыццяздольнасці ў нас элементаў ісламу і ўвогуле цюркскай этнічнай стыхіі, яе аднačасова здольнасці ўзбагачаць традыцыі паасобных народаў.

Дзякуючы „Ніве", я мог працягваць гэтую тэматыку ўжо ў Беластоку, а з цягам часу пачаў друкавацца ў польскіх навуковых часопісах і крыху за мяжою. Маю надзею, што ўжо ў больш канкрэтным намеры давядзецца ўзняць гэтую тэматыку ў „Ніве". Да гэтага кроку забавязвае багаты гістарыяграфічны набытак татараў у Беларусі, а салідарызавацца з маімі адзінаверцамі такім чынам магу толькі ў беларускім штотыднёвіку. У параўнанні з дасягненнямі татараў польскіх і літоўскіх — беларускія ў выяўленні невядомых дагэтуль фактаў з роднай гісторыі займаюць, так сказаць, першае месца. Падшыўкі часопіса „Байрам" („Свята"), органа Беларускага згуртавання татараў-мусульман „Аль-Кітаб" („Кніга"), чарговыя выданні з дакладамі на міжнародных канферэнцыях, арганізаваных разам з навуковымі ўстановамі Беларусі, мерапрыемствы мастацкага характару, інтэнсіўныя міжнародныя кантакты, у прыватнасці з краінамі ісламу — гэта далёка не ўвесь пералік пачынанняў маіх беларуска-татарскіх супляменнікаў.

Калі ў 1993 годзе быў я на Першым з'ездзе беларусаў свету, дарэчы ўпершыню ў Беларусі, тады ўрэшце сустрэўся са сваякамі па бацьку-мянчаніну. Меў гонар пабыць сярод адзінаверцаў, у прыватнасці сутыкнуцца з Абу-Бекірам Шабанавічам, прэзідэнтам „Аль-Кітаба", з Якубам Якубоўскім, адказным рэдактарам „Байрама", чалавекам энцыклапедычных ведаў, урэшце з Ібрагімам Канапацкім (нашы прадзеды родныя браты), вядомым гісторыкам, адным з самых заслужаных пачынальнікаў татарскага руху на беларускай зямлі. Як ведаем, тады старшынёю Рады згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" была выбрана Ганна Сурмач. Гэты факт вельмі ўсцешыў татараў, таму што ў яе асобе мелі раней і маюць зараз сардэчнага сябра і надзейнага памочніка.

Як ужо было адзначана, на Беларусі я ізноў апынуся з выпадку 75-годдзя нараджэння С. Х. Александровіча. Беларуская навука ім ганарыцца, таму што творчы набытак татарскага літаратуразнаўства па праву самы багаты і калькасцю, і глыбінёю роздумаў над пуцявінамі мастацкага слова ў Беларусі, ды тых усіх яго стваральнікаў, якія будавалі сувязі з такім жа словам суседніх народаў, у першую чаргу з польскім.

Татары ў беларускай культуры — гэта багаты яе раздзел. Мне ўжо неяк не выпадае залішне выказвацца на вядомую тэму. Няхай тады прагучыць голас нетатарына, менавіта Эмануіла Іофе з „Народнай газеты" ад 31 мая 1995 года. Вось што ён піша:

— Апошнім часам усё большая колькасць жыхароў Рэспублікі Беларусь, асабліва моладзі, пачала ўсведамляць, што нельга аб'ектыўна і якасна вывучыць гісторыю і культуру беларускага народа без ведання гісторыі і культуры беларускіх татараў.

Знамянальна тое, што Э. Іофе даў свайму артыкулу загаловак, узяты ад іншага аўтара, менавіта Аляксандра Бельскага, які наступна папярэдзіў свае разважанні аб Сцяпане Александровічу: „Дай Бог, каб кожны беларус так моцна любіў Беларусь, як гэты татарын". Дай Бог!

Зразумела, такім чынам Э. Іофе абагульніў цэлую з'яву, змяшчаючую ў сабе ўклад татараў у культурную спадчыну беларускай нацыі.

Гэта была проза. А паэзія? Калі я знаходзіўся ў Мінску, дык наш славуты Якуб Якубоўскі, дарэчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, уручыў мне верш „Беларускія татары", прысвечаны яму самім Рыгорам Барадуліным. Сталася гэта падчас незабыўнага вечара ў хаце Анны і Ібрагіма Канапацкіх, у якіх я затрымаўся. Я. Якубоўскі на гэтую першую нашу сустрэчу прывёз хатняга вырабу торт. Яго непраўдападобны смак — таямніца рэцэптуры, якую зайздросна сцерагуць татары. Зусім мэтанакіравана ўвёў тут кулінарны момант, таму што ўвогуле татары надаюць спецыяльнае значэнне паасобным вырабам традыцыйнай кухні, маючых рытуальны характар, садзейнічаючым... згоднаму сужыццю адзінаверцаў.

Дык вось у гэты памятны сапраўды сямейны вечар, прагучэлі натхнёныя словы Барадуліна, якія яшчэ больш моцна нас, прысутных, аб'ядналі:

**На Беларусь нашэсьце вашае**

Вітаю,<br>
Мірныя татары!<br>
Вы дбалі —<br>
Будавалі, важылі,<br>
Аблокаў пасьвілі атары.<br>
Былі гароднікамі ўпартымі,<br>
Кажушнікамі, макалямі,<br>
Прэч гора адганялі жартамі,<br>
Кулямі смутак затулялі.<br>
Вы засланяліся правіцаю<br>
Кайданьнікамі на этапах,<br>
Вы мову зьберагглі крывіцкую<br>
І ў сэрцах вашых,<br>
І ў кітабах.<br>
Пытаньне ўсім над вухам дыхае:<br>
Каму зашкодзілі,<br>
Скажэце,<br>
Татарскія магілкі ціхія,<br>
Маладзічковыя мячэці?<br>
Хапіла ж нашым мовам<br>
Сьмеласьці<br>
Сышоўшыся, не разгубіцца<br>
А ў мудрае паразумеласьці,<br>
Як дзьве крыніцы,<br>
Сьветла біцца,<br>
На Шчары,<br>
Нарачы,<br>
На Сьвіцязі<br>
Схаўрусіць хай<br>
З салам алейкум,<br>
Татары!<br>
Множцеся й пладзіцеся,<br>
Салам алейкум!

*Мінск, 1 лютага 1994 г.*

Завяршаючы артыкул, мне толькі застаецца нізка пакланіцца беларускаму народу, які ў далёкім мінулым прыняў татараў у сваю сям'ю і лічыць іх суродзічамі.

# Фэстын у Чорнай-Вялікай

Гарачае надвор'е ўсталёвалася ў нядзелю 9 чэрвеня ўжо ад самай раніцы. На блакітным небе ніводнай хмурынкі.

Ужо ў дзесяць гадзін хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку з акампаніятарам Віктарам Маланчыкам, заслужаным дзеячам культуры Беларусі, адправіўся аўтобусам у вёску Чорная-Вялікая, што ў гміне Гродзіск на першы ў гэтым годзе фэстын арганізаваны ГП БГКТ.

Па дарозе забраліся яшчэ жаночы хор з Козлікаў, сарганізаваны Любай Гаўрылюк, якому акампануе яе дачка Аля Дубец, а таксама папулярныя „Хлопцы-рыбалоўцы" пад мастацкім кіраўніцтвам Янкі Бурноса.

Добра сталася, што запланаваны на першую гадзіну дня фэстын не адбыўся пад гарачым сонцам, а толькі ў вялікай мясцовай святліцы. Спадзяваліся арганізатары фэстыну, што многія жыхары вёскі пойдуць на лугі сушыць сена, аднак на шчасце так не сталася: людзі выбралі канцэрт і зала была біткам набітая.

Канцэрт адкрыў сімпатычны солтыс вёскі Чорная-Вялікая Ян Балейка, які даў голас войту гміны Гродзіск Чэславу Жэру. Сказаў ён між іншым, што такія фэстыны павінны адбывацца ў сямятыцкім раёне штогод і не толькі ў адной мясцовасці.

Сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч коратка расказала аб дзейнасці Беларускага таварыства ў яго саракагоддзе і павяла канцэрт. Неўзабаве, пасля пленума Аддзела БГКТ у Гайнаўцы прыехалі на фэстын старшыні ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі і Янка Сычэўскі. Прыехала таксама на фэстын віцэ-куратар асветы ў Беластоку Зофія Траншчэр, якая паходзіць з вёскі Чорная-Вялікая.

Выступалі чаргова харысткі з Козлікаў, „Хлопцы-рыбалоўцы" і хор з Беластока. Усе пункты праграмы ўспрымаліся бурнымі воплескамі. Асабліва падабаліся песні „Касцёр" і „Ах, не журыся, сусед" у выкананні Алі Дубец — беларускага салаўя, як яе тут называлі, а таксама „Частушкі" ў выкананні яе маці — Любы Гаўрылюк.

На заканчэнне канцэрта прысутныя стоячы выслухалі ў выкананні ўсіх харыстаў двух „гімнаў" Беласточчыны — „Дзе б ты не пасяліўся" і „Люблю наш край".

У зале прадаваліся касеты беларускіх мастацкіх калектываў і кніжныя выданні БГКТ. Беларускія пісьменнікі Янка Целушэцкі і Віктар Швед падпісвалі свае кніжкі.

Жыхары вёскі Чорная-Вялікая падрыхтавалі гасцям багаты пачастунак, за які харысты прыгожа адспявалі ім „Многае лета".

Належыцца чарговая падзяка ўсім жыхарам вёскі Чорная-Вялікая, а асабліва солтысу Яну Балейку і старшыні аддзела БГКТ у Сямятычах Мікалаю Пракапюку за добрую падрыхтоўку фэстыну.

**В. Ш.**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг: пачатак у 18 н-ры)*

Пераняўшы гаспадарку і будучы ўжо вольнымі людзьмі, мой прадзед Амяльян з шаноўнаю прабабкай сталі жыць-пажываць ды дабро і дзяцей нажываць. Пра дабро іх мне менш вядома, а дзяцей мелі трое: дзве дачкі і сына.

Нараджэнне сына было значнай і важнай іх сямейнай падзеяй — ён быў адзіным сынам і меў быць адзіным наследнікам. Каб застрахаваць яго ад смерці, назвалі яго імем бацькі — Амяльянам. (У той час было такое павер'е, што калі сына назавеш імем бацькі, то ўжо ніякая халера яго не возьме. Вось таму так часта паўтараліся мужчынскія імёны ў многіх сем'ях. І гэта апраўдалася — мой дзед Амяльян пражыў да глыбокай старасці.)

Час хутка плыў, а прадзедавы дзеткі падрасталі. І дараслі нарэшце. Адна прадзедава дачка, Гапка, выйшла замуж за суседавага сына Рыгора, а другая — у вёску Кленікі.

Задумаў і Амяльян жаніцца. На жонку аблюбаваў ён дзяўчыну ў сваёй вёсцы. У афіцыйным дакуменце значыцца, што Антанюк Амяльян Амяльянавіч і Амельянюк Еўдакія Васільеўна ўзялі шлюб у пасынскай царкве 30 кастрычніка 1888 года. Маладусе было тады семнаццаць гадоў, маладому больш-менш столькі ж. Вяселле было гучнае, бо абое маладыя паходзілі з так званых добрых і нябедных сем'яў. Да таго ж, Амяльян быў адзіным сынам і наследнікам участковай гаспадаркі, што ў той час было, бадай, найбольшым козырам. А Еўдакія, апрача добрай гаспадаркі, мела ў сям'і добрых цесляроў і інтэлігенцыю. Абое былі маладыя, здаровыя, прыгожыя і закаханыя. Чаго ж яшчэ трэба да поўнага шчасця?!

Мая буйная фантазія проста цяпер рысуе радасную карціну іх вяселля: шчаслівыя твары маладых, іх радні і вясельнікаў. Мне хочацца крыкнуць ім — „Горка!!!", падняць поўную чару і выпіць за іх шчаслівую будучыню, якой, напэўна, здавалася тады, проста канца не будзе... А колькі ж ужо гадоў трэба піць — „за упокой" іх і меўшых паявіцца ў іх дзяцей?.. Ужо мы, унукі наймалодага іх сына, уступілі ў апошні свой жыццёвы перыяд. Сумна гэта.

Але вяртаймася да паслявясельнага часу і прыгляньмася новай сям'і.

Сям'я гэта аказалася надзвычай моцнай, згоднай, гаспадарнай. Амяльян выкарыстоўваў даслоўна ўсе магчымасці, і гаспадарка яго хутка расла ў сілу. Ад яго не ўцякла ні рыбка, ні ягадка, ні грыбочак, ні тым больш гаспадарскія справы. І ўжо ніяк нельга ўявіць сабе Амяльяна ў карчме, калі валы стаяць каля яе.

Мужчыны сям'і Амяльянавых цесцяў Амельянюкоў, пра якую дакладней я пазней раскажу, былі выдатнымі цеслярамі і дадаткова дараблялі пабудовай будынкаў і іншымі цяслярскімі справамі. Таму ў час шлюбных дагавораў, апрача вялікага на той час пасагу за дачкой — 100 рублёў, абяцалі таксама, што дапамогуць зяцю перабудаваць будынкі. Відаць былі яны ўжо не першай маладосці, і трэба было іх крыху перамясціць.

Справа ў тым, што недалёка Амяльянавай сядзібы быў раней самы вялікі вясковы прагулак. На гэтым прагулку, відаць, выкупіўшы ад вёскі яго, пасялілася сям'я Дэрпаў. Прагулак быў вузкаваты і трэба было крыху насунуць Дэрпаў на суседа Герасімюка, а Герасімюка на Сасноўскага і так далей аж да наступнага прагулка. З тым, што калі на гэтай частцы сядзібы стаялі будынкі, трэба было чакаць, пакуль іх сам гаспадар будзе ліквідаваць ці перабудоўваць. І толькі тады гэтая частка сядзібы ставалася поўнай уласнасцю суседа. Разумна, па-мойму.

Трэба сказаць, што і ў гэтым сэнсе мой дзед выкарыстаў свайго цесця максімальна. Перабудаваў усе старыя будынкі і набудаваў новых. Усе будынкі былі, падобна, дабротныя, прыгожыя. Новая дзедава хата была на дзве паловы, печы былі абкладзены кафляй.

У Амяльяна і Еўдакіі пачалі нараджацца дзеці. Было іх шасцёра: чатыры дочкі і двух сыноў. Наймалодшым дзіцём быў будучы мой тата; ён нарадзіўся ў 1905 годзе. Была ў іх яшчэ адна дзяўчынка, але ёй не пашанцавала. Бацькі, едучы на кірмаш у горад, аддалі яе пад нагляд бабчынай маці. Там яна была нехаця і моцна ўдарана хатнімі дзвярыма і памерла ад гэтага ўдару. Вярнуліся з горада бацькі, а дома мёртвае дзіця.

Недарэчна загінула дзяўчынка Амяльянавай сястры Гапкі, што жыла па-суседску. Яе для жартаў так напалохалі жабай, што малая памерла ад страху. Памёр таксама сын Гапкі, Рыгор, асіраціўшы другую дачушку і жонку.

Гапка другі раз выйшла замуж у Чыжы за Башуна, які таксама быў удаўцом. Гэта была добрая партыя, бо Башун быў заможным гаспадаром і вядомым у ваколіцы чалавекам. Вянчаў іх бацюшка Васіль Кастыцэвіч у пасынскай царкве і нават крыху сапсаваў ім гэтую радасную вясельную ўрачыстасць. „Вы лишаете меня моих доходов", — гнеўна дакараў святар Амяльяна ў час расплаты за вянчанне. Прычынай бацюшкавага гневу было тое, што не атрымаў ён ад маладых каравая з прыдаткамі, апрача канешне грашовай платы. Такі быў заведзены парадак у пасынскім прыходзе і, як бачым, гэтых прыбытковых парадкаў святар умеў пільнаваць. Башун аб гэтых парадках не ведаў, бо ў чыжоўскім прыходзе маладыя каравая святару не дорылі. Захаваўся аднак ганарова: бацюшку перапрасіў, а салідны каравай пазней уручыў. Цяпер бацюшка быў такі задаволены караваем і Башуном, што яны нават пасябравалі. Калі на парафіяльнае свята Яна, 7 ліпеня, Башун прыязджаў у Пасынкі, вазіў сваёй карэтай бацюшку на могілкі, дзе на Яна адбываліся таксама маленні за памерлых. Толькі потым ехаў у госці да Амяльяна.

Трэба сказаць, што бацюшка Кастыцэвіч трымаў дысцыпліну ў сваім прыходзе і не пераносіў непаслушэнства ці непавагі да свае асобы. Ён мог нават падаць у суд цэлую бельскую ўправу за тое, што адзін з праезджых мосцікаў на іх тэрыторыі зламаўся пад яго карэтай.

Вось так жылі-пажывалі памаленьку нашы продкі. Адны нараджаліся, раслі, выходзілі замуж ці жаніліся, а другія ўміралі. Завязваліся новыя сем'і і новыя сваяцтвы. Хто жыў без выразных змен, хто бяднеў, а хто хутка разжываўся.

Хутка і дынамічна расла і ўзмацнялася Амяльянава сям'я і гаспадарка. Старэйшыя дзеці ставаліся дарослымі, а малодшыя хадзілі яшчэ ў школу або рыхтаваліся да яе.

Школа ў нашай вёсцы была, а настаўнік кватараваўся ў дзедавай хаце. Яму падабалася старэйшая дзедава дачка Ганна. Відаць ён строіў нейкія матрыманіяльныя планы наконт яе, але пакуль ён вярнуўся з канікул, Ганнушка ўспела выскачыць замуж за хлопца з суседняй вёскі Трашчоткі. Яе сястра Палашка стала жонкай хлопца са сваёй вёскі Анопрыя Сахарчука. Дома з бацькамі асталіся дзве малодшыя дочкі і два сыны. І так ужо асталося да трагічнага 1915 года — да бежанства...

*(працяг будзе)*

# Просьба да барацьбітоў за Беларусь

Калі б некаму з шаноўных чытачоў „Нівы", „Беларуса", „Часопіса" і шмат іншых газет захацелася падумаць і прасачыць гісторыю Беларусі, дык лёгка зразумеў бы, чаму так усім залежыць, каб мець у сябе Беларусь.

Паглядзеўшы на сучасную сумятню ў „абароне" Беларусі, лезе ў галаву вось такая думка: чаму ў нашым стагоддзі (каб не заглыбляцца ў старажытнасць, хаця варта нават з увагі на Кастуся Каліноўскага заглянуць да бунту 1863 года), усім залежыць на тым, каб падпарадкаваць сабе тэрыторыю Беларусі? Гэта лёгка адгадаць: кожны захопнік імкнецца да таго, каб валодаць, калі ўжо не светам, то хаця б кантынентам. А калі гэта не ўдаецца, то хаця б чым найбольшай колькасцю чужых зямель ды іх багаццем.

А што датычыць Беларусі, дык яе кожны хоча мець для сябе таму, што і зямля прыгожая сваёй прыродай — мноства рэк, азёр, лясоў і самае найважнейшае, што выклікае ў захопнікаў слінацячэнне, гэта спакойны і працавіты праваслаўны народ, які хоча жыць мірна і нікуды не соваць свайго носа, калі ніхто яго не чапае. Тым часам цэлымі стагоддзямі ўсе пра яго „клапоцяцца" і нават б'юцца. Ды не за народ, а за тэрыторыю, каб пашырыць свой „лебенсраўм" — жыццёвую прастору.

Падчас бунту 1863 года „герой" Кастусь Каліноўскі супольна з палякамі ваяваў з рускімі вайскамі і царызмам, вешаючы на шыбеніцах праваслаўны „мотлах", які не падтрымоўваў палякаў, бо праваслаўны, тутэйшы чалавек быў духоўна і эмацыянальна больш звязаны з праваслаўнай Расіяй, чым з каталіцкай Рэччу Паспалітай. А калі так, дык гэты народ трэба было пасладць на шыбеніцы, каб заслужыць на прыхільнасць будучых гаспадароў. Памагатыя бунтаўшчыкоў так заслужыліся, што нават іліжывая „Большая советская энциклопедия" называе яго, значыць К. Каліноўскага, брацьбітом за чалавечыя правы і за вызваленне Беларусі ад царызму. Яшчэ і па сённяшні дзень у, на жаль, не ведаючага гісторыі тутэйшага насельніцтва, К. Каліноўскі карыстаецца ўдзячнай памяццю ў выглядзе публіцыстыкі, Дома культуры ў Гарадку ды ўрокаў у школах з беларускай моваю навучання. Камусьці на гэтым залежыць.

Пры канцы І сусветнай вайны заклапаціліся аб Беларусі Пілсудскі са сваімі легіёнамі — настоящий белорус, Станіслаў Булак-Балаховіч — праўдзівы бялорусін і шмат іншых вайскоўцаў, пачынаючы ад польскіх капітанаў, а канчаючы на нямецкіх генералах, аб якіх цяпер пішуць і гаманяць розныя гісторыкі, як аб нацыянальных героях Беларусі. А ўсіх тых, хто хоча выказаць сваю волю (а гэта на сённяшні дзень 80% беларускага насельніцтва) называецца здраднікамі або цёмнай масай. Кшаклеўскі паехаў, каб усвядоміць цемру, але цемра ёсць цемра, узяла дый вытурыла барацьбіта за правы беларускага народа з межаў Беларусі і зноў пачаўся крык „сапраўдных беларусаў", якія хочуць, не — яны прагнуць, падлізацца тым, хто імкнецца, калі не зараз, бо міжнародная сітуацыя на гэта не дазваляе, дык у будычыні пашырыць тэрыторыю Польшчы аж да межаў Расіі і ўстанавіць сваю ўладу.

Заклікаю тамашніх і тутэйшых салідарніцкіх барацьбітоў, каб перасталі ваяваць за беларускую тэрыторыю, а падумалі аб беларускім народзе, якога эксплуатаваў кожны хто хацеў, як цёмных батракоў і пасылаў у лагеры ды турмы як нікому непатрэбны баласт. Не толькі беларус, але кожны народ не падумецца, калі яго ўсе будуць толькі прыгнятаць. Няхай беларусы на сваёй тэрыторыі стануць самі гаспадарамі, а не чужынцы ў розных мундзірах і расах. Аднак яшчэ доўга гэтага не будзе, калі там будзе пашырацца празелітызм ды ўмяшанне польскіх салідарнікаў. Гледзячы на сённяшнюю сітуацыю аказваецца, што цяпер ужо мяшаюцца ў беларускія справы не толькі адны салідарнікі.

На канец дзве істотныя заўвагі:

— сорам быць лізунамі „Салідарнасці", якая называе вас кацапамі, чырвонымі клапамі і абліваe фарбамі. Прыпомніць? Калі ласка. Рэгіён „С" у Катавіцах заклікаў: „ппэточыць валец по чэрвоных плюсквах" тады, калі вы не ведалі што рабіць, каб быць святейшымі за самога папу рымскага; Рэгіён гданьскі слаў тэлеграмы з грознымі пытаннямі: „Кацапы, длячэго не страйкуеце!?" Аб фарбах не буду прыпамінаць, бо хіба яшчэ памятаеце;

— чаму тых, хто паспрабаваў ваяваць з бальшавікамі, называеце героямі, а тых, хто паспрабаваў супрацьстаяць легіёнам Підсудскага і ўсім іншым аматарам заваявання Беларусі — бандытамі?

Калі, напрыклад, заклік катавіцкага рэгіёна „С" вас не датычыў, дык вядома ў чыю дудку дуеце. Зрэшты, і так вядома.

**Васіль Петручук**

PS. Калісьці, на інаўгурацыі асветнага года ў памяшканні ГП БГКТ адзін з нашых дзеячаў у сваім выступленні абвясціў, што „Ніва" будзе публікаваць прозвішчы агентаў бяспекі. Ці дачакаемся гэтага? Бо ўжо прайшло хіба каля дзесяці гадоў і маўчок. Давайце, хлопцы, публікуйце, няхай „Ніва" стане больш цікавай, а тады будуць яе купляць не толькі беларусы.

**Ад рэдакцыі:** Артыкул друкуем як прыклад народнага ўяўлення пра гісторыю Беларусі. Калі няма школ, дзе навучаецца гісторыя свайго народа, веды заўсёды заступаюць лозунгі, вывучаныя на курсах для рэкрутаў. А ў рэкруты ніколі не бралі тут у беларускую армію. Шкада толькі, што хлопцы з нашых бедных вёсак, калі нават з цягам часу сталі маёрамі, сёння надалей прамаўляюць на мове мітынгаў з эпохі „класавай барацьбы". Шкада!

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**23 чэрвеня**

1889 г. — нар. расейская паэтка Анна Ахматава

**24 чэрвеня**

1717 г. — заснаванне ў Лондане першай вольнамулярскай ложжы, мэтай якой былі гуманітарнасць, талерантнасць і братэрства.

1812 г. — пачатак паходу Напалеона Банапарта на Маскву.

1859 г. — бой пад Сальферына, які стаў штуршком для ўтварэння Міжнароднага чырвонага крыжа.

1900 г. — нар. пісьменнік Кузьма Чорны.

**25 чэрвеня**

1840 г. — адмена Статута Вялікага княства Літоўскага і пераход на расійскае заканадаўства.

1876 г. — атрады амерыканскай кавалерыі пацярпелі паражэнне ад індзейцаў сіу і чаенаў.

1905 г. — нар. паэт Пятрусь Броўка.

1920 г. — Гаага аб'яўлена сядзібай Міжнароднага трыбунала.

1928 г. — нар. Аляксей Абрыкосаў, савецкі фізік, тэарэтык звышправаднікства.

1950 г. — нападзеннем паўночнакарэйскіх войск на поўдзень пачалася карэйская вайна.

1951 г. — амерыканская тэлекампанія CBS правяла першую каляровую тэлеперадачу.

1976 г. — у выніку пратэстаў польскія ўлады адмянілі павышэнне цэн прадуктаў харчавання.

1991 г. — парламенты Славеніі і Харватыі аб'явілі незалежнасць ад Югаславіі.

**26 чэрвеня**

1824 г. — нар. Вільям Кельвін, англійскі фізік.

1898 г. — нар. Вілі Мэсаршміт, нямецкі авіяканструктар.

1906 г. — 32 машыны прынялі ўдзел у першых аўтагонках ў Ле-Ман.

1933 г. — нар. Клаўдзіо Абада, італьянскі дырыжор.

1945 г. — прадстаўнікі 52 дзяржаў заснавалі ў Сан-Францыска Арганізацыю Аб'яднаных Нацый.

1986 г. — дзве трэці насельніцтва Ірландыі выказалася ў рэферэндуме супраць разводаў.

**28 чэрвеня**

1577 г. — нар. Пітэр Рубенс, нідэрландскі мастак.

1914 г. — аўстрыйскі наследнік трона Франц Фердынанд застрэлены сербскімі студэнтамі ў Сараеве. Замах стаў зачэпкай першай сусветнай вайны.

1919 г. — у Версалі падпісана мірны дагавор між альянтамі і Германіяй.

1942 г. — памёр паэт Янка Купала.

1950 г. — паўночнакарэйскія войскі пасля трох дзён наступлення занялі Сеул.

**29 чэрвеня**

1520 г. — апошні ўладар ацтэкаў Мантэзума II замардаваны ў іспанскай турме ў Мексіка.

1913 г. — нападзеннем Балгарыі на Сербію пачалася другая балканская вайна.

1956 г. — у Нью-Йорку пісьменнік Артур Майлер ажаніўся з актрысай Мэрлін Манро.

1986 г. — у Сан-Дыега вядучыя вучоныя выказалі занепакоенасць ростам азоннай дзіры ў атмасферы. **(Ш)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Мілы Астронку! Такія мне страшныя сны сніліся, што нават і ўспамінаць баюся! Была нядзеля, я спакойна легла спаць і не прадчувала нічога кепскага. Раніцай не магла сабе знайсці месца.

Усю ноч мне сніліся кашмары. Спачатку сніліся нейкія кветкі, але ўсе яны былі не надта свежыя, быццам бы падсохлыя. Аднак жа былі даволі прыгожыя, такія, як я бачыла ў краме: штучныя, але імітавалі старыя, завяўшыя.

Пасля сніўся мне нейкі карлік. Ну, дальбог, быў зусім такі, як тыя гномікі з карцінак — з доўгай сівой барадой, у высокай чырвонай шапцы, у такой жа куртцы. Адно мяне занепакоіла: твар гэтага гнома быў нейкі не зусім такі, як я бачыла на карцінках. Быў ён выкрыўлены, не такі сімпатычны і натуральны.

Я ведаю, Астроне, што ты мяне будзеш суцяшаць, гаварыць, што бываюць яшчэ горшыя сны, але ці стане мне ад гэтага лягчэй?

**Анюта**

Анюта! Вядома, што сны гэтыя не надта добрыя. Завялыя, сухія кветкі маглі б абазначаць, што лопне, як мыльны пузыр, надзея на лепшае. Кветка, калі яна свежая і прыгожая, абазначае радасць, а сухая... На жаль, не.

Ды і той жа карлік з выкрыўленым тварам таксама мог бы прадвяшчаць, што ў цябе будуць непрыемнасці.

Усё магло б быць, калі б... не снілася табе гэта ў нядзелю! Нядзельныя сны рэдка спраўджаюцца, чым і суцяшаю цябе.

**Астрон**

# Двухлітарная крыжаванка



**Гарызантальна:** 1. мястэчка на Беласточчыне, 3. пасудзіна для заквашвання цеста, 5. драўляны брусок для абмалоту лёну або выбівання бялізны, 7. лягушка, 9. парада, павучанне, 10. легендарная каралева Асірыі слаўная сваімі агародамі ў Вавілоне, 11. рака ў Нямеччыне, 12. напр. карп, 14. амплітуда, 16. неруш, 17. сталіца Абхазіі.

**Вертыкальна:** 1. Міраслаў, харвацкі пісьменнік, 2. міжземнаморская выспа, 3. дзікі кабан, 4. калядны абрад, 6. устарэлыя погляды, 8. штучны вадаём, 9. аўтар „Прыгод Чыпаліна", 11. горад на поўдні Беларусі, 13. сталіца Аджарыі, 14. пашкоджанне тканак цела, 15. горад на поўначы Шырванскага стэпу (Азербайджан). **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 18 н-ра:** Саколка, саранча, клічнік, рыбалка, дабытак, калядкі, пудзіла, раздзел, Люцыпар, пытанне, варанне, храстох.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Сафіі Байко** і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока

**Міні-даведнік**

**Ахсу** — горад на паўднёва-усходніх склонах Каўказа.

# Час ідзе хутка

— Час хутка ідзе, — уздыхнула старая Юлька. — Здаецца, не так даўно я была маладая, а ўжо два праўнукі ў мяне ёсць...

Цяжка жылося. Вядома, як то калісь. Дзяцей у кожнай сям'і шмат, а поля мала. Яшчэ, калі зямля добрая, ураджайная, можна было якасьці жыць, але калі слабая? Абробіш сваё поле, бяжыш на заробкі на чужое. Босы ды паўгалодны. Хто там што ведаў ці думаў пра каханне! Жаніліся ды ішлі замуж, як бацькі хацелі. Як сын ці дачка што не так скажуць, то зараз ім у адрэс: „Ідзі, бадзяйся па свеце, калі табе тут у нас не падабаецца! Без цябе, гад, пражывем!" Кожны баяўся адысці з бацькоўскага дому — вядома, нявучаны чалавек, дзе такому знайсці занятак, долю!

Мяне аддалі замуж на хутар. Першы год страшна мне было там жыць — усюды наўкол хваіна. Адна хатка ад другой найменш сто метраў, да вёскі дзве вярсты. Муж любіў выпіць, свекры старыя, ледзь што маглі зрабіць. Амаль усё было на маёй галаве. Мой муж, Антось, быў наймалодшы ў сям'і, сёстры былі замужам у суседнай парафіі.

За пяць гадоў нашага сужонства нарадзіла я трое дзетак — двух сыноў і дачку. Калі малой было два гады, памерлі дзяды — да году былі ў нас два пахаванні.

Антось, як раней, шмат выпіваў, граў на грошы ў карты. Аднойчы доўга не прыходзіў дадому. Я ўжо думала, што не вернецца, але прыпоўз начаваць. Я зачыніла хату і дапамагла ўзлезці мужу на печ. А ён мне кажа: „Ты, Юлька, дай маім сябрам хлеба." — „Якім сябрам?! Тут жа нікога апроч цябе няма?!" — „Яны пад акном стаяць і лаюцца на мяне, што ім хлеба не даю! Я не мог знайсці дарогі дамоў, яны мяне правялі. Я абяцаў даць ім хлеба".

Мае валасы ўздыбіліся. Дзеці малыя, бацька п'яніца, а яшчэ яму злыя духі паказваюцца!!! Памалілася я, і муж заснуў цяжкім сном.

У час фашысцкай акупацыі ўсіх хутаранаў перасялілі ў вёску. Тут людзі і асталіся. Нашы дзеці павырасталі, завялі свае сем'і. Усе яны жывуць у нашай вёсцы. А ўнукі пераехалі ў горад. Ужо нават унучкі замужам, нарадзілі мне праўнучачкаў.

Мой Антось ужо дзесяць гадоў як не жыве. І я, меўшы такую вялікую сям'ю, дажываю свой век, седзячы адна ў хаце...

**Аўрора**

# ПАРНАСІК

## Вёска

Жыць у вёсцы свабодна,
Гучыць мова родная.
Тут яе гняздо і месца
І ніколі нікому не цесна.
Тут людзі не фанабэрысты,
Трымаюцца жыццёвай лісты.
Бяда і гора трымалі іх разам —
Спявалі супольна і басам.
Кругом чуваць родны сказ,
Які тут яшчэ не пагас.
Людзі гутараць свабодна:
Ад сэрца, не модна.
Аднак прагрэс уваходзіць у вёску,
Прынёс Матку Боску.
Таксама іншыя абычаі, лексіку —
Так, як у лацінскую Мексіку.
З Івана стаў Януш,
Нарадзіўся новы Мар'януш,
З Мікалая паўстаў Мечыслаў —
Родную мову забыў, гаварыць перастаў.
Польская стала роднай,
Гарачай і моднай.
Дзеці шчабечуць па-польску,
Не па-беларуску — па-свойску.
Чым людзі больш прагрэсіўныя
Тым больш яны наіўна-дзіўныя.
Дык гэта толькі пачатак,
Пабачым, які будзе парадак.
Я веру ў аптымізм
І беларускі рэалізм.
Але ёсць праўда: людзі бедныя,
Яны менш урэдныя,
У бядзе дапамогуць
І цябе знойдуць.
А людзі багатыя —
Яны амаль рагатыя.
Не чакай ад іх дапамогі
І не ступай на іхнія дарогі.

**Мікалай Панфілюк**

# Няўжо непатрэбны

Ад 2 чэрвеня г.г. на чыгунцы абавязвае новы расклад цягнікоў. У гэты дзень я прыкмеціў нешта дзіўнае на станцыі ў Чаромсе. З непамятных мне часоў каля перонаў стаяла дошка з актуальным раскладам паяздоў. Зараз яе не бачу. Дзе яна прапала, цяжка мне сказаць. Калі б яе знялі для нанясення змяненняў, тады ў нядзелю была б яна ўжо на сваім старым месцы. Але яе няма!

Праз Чаромху кожны дзень праязджаюць дзесяткі, сотні пасажыраў. Некаторыя з іх робяць перасадку і трэба ім ведаць, калі адпраўляецца чарговы цягнік. Каб гэтага даведацца, цяпер ім трэба распытваць чыгуначнікаў або бегчы да раскладу ў пачакальні. Каму прыйшла ў галаву думка, каб забраць расклад з перонаў? Няўжо мясцовым начальнікам? Ці яны часам не хочуць, каб пасажыры сталі спартсменамі і, бегаючы за інфармацыяй у пачакальню, выраблялі сваю форму? А мо проста палічылі, што расклад цягнікоў ля перонаў нікому ўжо непатрэбны?

**Уладзімір Сідарук**




Ніва

„Niwa"

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 421-033.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

# Ніўка

## Пеця

Чутно раз было па свеце,
Як у нас жаніўся Пеця.
Задумаў ён Маню ўзяці,
Бо ўмее жыта жаці.
Жыта стала даспяваці,
Пайшла Маня сама жаці.
Дзень вялікі, не дай Божа,
Маня змучылася гожа.
Стала вакол разглядацца,
Каб прысесці, распрастацца,
За вярбой у халадочку
Абсушыць сабе сарочку.
Адпачыўшы крышку, Маня
Далей сама жыта жала.
Пеця, бедны небарака,
Разгуляўся як сабака.
У краме піва папівае,
Сваю Маню выхваляе:
„Мая Маня — міла жонка,
І ў цешчы тоўстая кішонка.
Трэба, хлопцы, вам жа знаці,
Як сабе жонку падабраці.
Мы хутка справімся з работай,
Хаця крышку выцячэ поту".
Вярнулася Маня з работы
Абабіла Пецю бокі.
Перастаў наш Пеця піці,
Сталі ўжо ўдваіх рабіці.
Хутка яны разжыліся
І ў горад падаліся.
Цяпер жывуць у Беластоку,
Не баляць ужо ім бокі.
Лягчэйшае жыццё маюць
І пра вёску не забываюць.

**Мікалай Лук'янюк**




*Мал. Ірыны* КОРАБАВАЙ

## Старасць — не радасць

— Мама, Алесь мне прапануе руку і сэрца, — паведаміла васемнаццацігадовая Волечка.

— Ды ты што, галубка? Ты ж яшчэ дзіця... Пачакай!

Праз тры гады Воля сказала:

— Мама, Пятрусь хоча, каб я стала ягонай жонкай.

— Куды спяшацца? Не губі маладосць...

У дваццаць пяць дзяўчына зноў пастукнулася да маці:

— Андрэй зрабіў мне прапанову.

— Не трэба, дачушка. Нажывешся ў чужой сям'і.

Мінула яшчэ пяць гадоў.

— Мікола кахае мяне. Кажа, што жыць без мяне не можа.

— Куды спяшацца, Волечка? Няўжо ў цябе іншых праблем няма?

У трыццаць пяць Вольга ў чарговы раз спытала маці:

— Як ты паставішся да таго, што мы з Сяргеем распішамся?

— Навошта табе гэтыя мужыкі? З-за іх адны непрыемнасці...

Вось і саракагоддзе. Вольга Іванаўна падышла да маці:

— Ведаеш, я закахалася, але ён і глядзець на мяне не хоча. Кажа, старая я ўжо...

— Ды плюнь ты на яго! Адчапіся ты ад гэтых мужыкоў! Не паспееш міргнуць вокам — табе ўжо пяцьдзесят, а там праз пяць гадоў на пенсію... А ты ўсё пра мужчын... Я, як толькі закахалася, нікога не слухала: ні бацьку, ні матку, ні сябровак. Але ж ты не такая! Прыгажуня. Разумніца. Заўсёды раішся з маці. Дай-тка мне валідолу, нешта сэрца прыхапіла... Старасць — не радасць... Добра хоць, што ты ды твой бацька ў мяне ёсць, а то хто б дапамог?..

**Уладысь Цвяткоў**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Муж накрыў жонку з каханкам.

— Ты тут? — здзіўляецца жонка. — То з кім я тады ў ложку?

* * *

— Коля, ці верыш у тое, што можна чытаць у чужых думках?

— Не; а ты?

— Ад учора веру. На плавальным басейне пабачыў прыгожую дзяўчыну. Нават слова не сказаў, а ўжо дастаў аплявуху.

* * *

Едучага самаходам ксяндза затрымоўваюць паліцыянты:

— Што вы, ойча, везяце ў багажніку?

— Радыятар для рызніцы.

— Ага... Ну, добра, тады едзьце далей.

Мінула некалькі хвілін. Адзін з паліцыянтаў пытае калегу:

— Так папраўдзе, што гэта такое радыятар?

— Гэта ты павінен ведаць! Ты ж хадзіў два гады на рэлігію.

* * *

Задрыпанец выбраўся на экскурсію ў Венецыю. Аглядае горад і здзіўляецца:

— Гэта страшна; у горадзе патоп, а яны спяваюць.

* * *

Гутараць два сябры:

— Чаго ты такі сумны?

— Сёння мая жонка загадала мне зрабіць выбар: або гарэлка, або яна.

— Ну і што?

— Будзе мне яе бракаваць.

* * *

Тэлефон у хуткую дапамогу:

— Пан доктар, хутчэй прыязджайце, наш сынок праглынуў штопар.

— Зараз буду! А што вы дагэтуль зрабілі?

— Адкрылі бутэльку адвёрткаю.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Ведаеш, чым больш старэю, тым муж штораз больш мною цікавіцца.

— Няма чаго дзівавацца — ён жа археолаг.

* * *

На вуліцы перад аўтамабіль убягае малое дзіця. Шафёр выказвае рэфлексам і ўмеласцю, пазбягаючы няшчасця. Да самахода падбягае паліцыянт:

— Віншую вас! Выдатна ездзіце. За гэта майстэрства наш камісарыят прызнае вам грашовую ўзнагароду.

— Вельмі дзякую, — збянтэжана адказвае шафёр.

— А можна даведацца, на што прызначыце гэту ўзнагароду? — пытае паліцыянт.

— Запішуся на вадзіцельскія курсы...

— Не звяртайце ўвагі на яго выдумкі, — умешваецца жонка. — Ён заўсёды гарэзнічае, калі выпʼе.

— А не гаварыла я, — адзываецца ззаду бабулька, — што на крадзеным самаходзе далёка не заедзем.

## Прыпеўкі

Ой, пайду я ў лавачку,
Куплю мёду баначку.
Няхай мілы мажацца
І к другім не вяжацца.

Дзе мы з міленькай стаялі,
Там растаялі снягі.
А дзе з ёю мы сядзелі,
Там пралескі зацвілі.

Запісаў **Янка Целушэцкі**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я нядаўна пахавала мужа, які памёр у даволі маладым узросце. Цяпер думаю, перадумваю наша жыццё і многае мне становіцца незразумелым.

Напрыклад: чаму менавіта памёр ён, а не я, калі ж гэта ён катаваў мяне? Я ў адносінах да яго заўсёды была спакойная. Не ўяўляла сабе, што можна рабіць такія прыкрасці чалавеку, з якім дзелім пасцель і маем дзяцей. Абзываў мяне рознымі словамі, зневажаў.

Не разумею, чаму ён не бачыў, што мучыць мяне, што я цярплю... Але ўяві сабе, што калі толькі нехта ўваходзіў у наш дом, ён так змяняўся, што нельга было яго пазнаць. Гэта быў не той чалавек, што яшчэ хвіліну таму абзываў мяне сволаччу, бо чай падала я яму ў кубку, а не ў шклянцы. Ён быў сімпатычны і ўслужлівы, гатовы зрабіць гэтаму чужому чалавеку ўсё, адным словам — свой *хлоп!*

Мне была працяўна гэта метамарфоза: я ж ведала, што ў яго нутры сядзіць хам і грубіян, а тут ён перад людзьмі паказваўся, быццам нейкі анёлак.

Так, Сэрцайка, і ўяўлялі ўсе навокал маё жыццё: райскае, бо муж мілы, пра ўсё дбае, робіць пакупкі, нават ліфчыкі жонцы купляе. А не падумаў ніхто, што робіць гэта, каб не даць мне граша ў рукі, каб і той ліфчык часам не быў занадта дарагі, калі куплю я яго сама...

Не вер вачам! — хацелася мне няраз крыкнуць, калі сяброўкі пачыналі расхвальваць майго мужа, але нікому я нічога не гаварыла, бо што ж бы гэта мне дапамагло?! Былі б адно плёткі, прыкрыя ўвагі, шушуканне за маімі плячамі. Мне хацелася, каб пра маю сям'ю ўсё ж думалі добра, таксама, як пра майго мужа меркавалі чужыя людзі, якія яго ведалі толькі павярхоўна.

А ў людзей жа бывае зусім інакш. Напрыклад, у адной маёй сваячкі муж вельмі гарачы. Неяк так выходзіла, што калі мы паяўляліся ў іх кампаніі, заўсёды ў іх вынікала нейкая сварка. Часамі даходзіла нават да таго, што яны браліся за чубы. Заўсёды ў іх пачыналася ад зайздрасці. Ён яе даслоўна праследаваў сваімі падазрэннямі: а чаму-то камусьці ўсміхнулася, а на таго глянула „шматзначна", а каля іншага занадта блізка сядзела, яшчэ хтосьці нешта шаптаў на вуха...

Мне часамі было аж непрыемна слухаць усё гэта. Быццам бы яе муж спецыяльна прыходзіў да некага ў госці, каб зачапіць жонку, выказаць свае жалі, каб развяліць кампанію. Гаспадары ў такіх сітуацыях часта раскладалі рукі: ну, што рабіць, мірыць іх, калі вядома, што ён сварыўся з жонкай, быццам хочучы паказаць усім перавагу над ёю. А яна сапраўды адчувала сябе тады нялёмка і проста не ведала, бедная, куды падзець вочы.

Але як бы не паводзіў сябе яе муж, усім было заўсёды ясна, што ён вельмі кахае жонку. Яна мне часта расказвала, якім ён часта становіцца анёлам, калі толькі яны апынуцца ізноў у сваёй хаце. Яго брыдкія паводзіны ў кампаніі зусім не падыходзілі да іх узаемаадносін дома.

Цяпер я нікуды не хаджу, мала з кім наогул бачуся. Але так думаю, як усё ж было б лепш жыць: так, як мы — ці так, як тая сваячка з мужам?

**Лена**

Лена! Нельга чалавеку вызначыць заданні ў жыцці. У кожнага — сваё. І ў цябе, і ў тваёй сваячкі не ўсё было ў парадку, бо ва ўсім патрэбна памяркоўнасць. Цяжка мне адказаць на тваё пытанне: як лепш? І так, і так кепска. Я разумею, ты хочаш сказаць, што муж сваячкі дык яе кахаў, а твой да цябе ў хаце быў, як звер. Хачу цябе пацешыць, што грош цана і таму каханючаму, які без памяці кампраметуе жонку пры людзях, робіць гэта дэманстрацыйна і перманентна.

Добра тады, калі ўсё ў міжлюдскіх адносінах добра. Чалавека, а тым больш жонку, трэба шанаваць на вуліцы і ў хаце.

**Сэрцайка**